

«Падляшша ў аб'ектыве»→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Святыя куты→4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 03 (3114) Год LXI Беласток, 17 студзеня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Развітанне з айцом Рыгорам Сасной

**На трэці дзень Раджджаства Хрыстовага паводле юліянскага календара ў апошні шлях правялі айца доктара Рыгора Сасну, ад дваццаці дзевяці гадоў настаяцеля прыхода ў Рыбалах, гісторыка, даследчыка беларускай і праваслаўнай культуры, публіцыста, які шмат гадоў пісаў таксама ў наш штотыднёвік. Памёр пасля працяглай хваробы ў 9.15 напярэдадні Каляд. Пахавалі Яго на могілках у Бельску-Падляшскім па вуліцы Міцкевіча.**



Нарадзіўся Ён 30 красавіка 1939 г. у вёсцы Шарні каля Орлі. Наведваў пачатковыя школы ў Малінніках і Орлі. У 1953-1957 гадах быў вучнем Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Пасля атрымання атэстата сталасці ў верасні 1957 г. паступіў у Праваслаўную духоўную семінарыю, а ў кастрычніку 1959 г. быў прыняты ў Хрысціянскую багаслоўскую акадэмію ў Варшаве. Яшчэ як студэнт (у 1960 годзе) звянчаўся з Антанінай Троц, якая на працягу многіх гадоў таксама дапамагала яму ў навукова-даследчыцкай працы. У тым жа годзе тагачасны вікарны епіскап Варшаўска-Гданьскай епархіі Васілій рукапалажыў Яго ў святарскі сан. Першыя крокі ў душпастырстве ставіў у прыходзе Кальнікаў у тагачасным Пярэмышльскім ваяводстве, а затым быў накіраваны на прыход у Кодані над Бугам. Трагічная гісторыя Праваслаўнай царквы і яе вернікаў на гэтым абшары паўплывала на выбар тэмы магістарскай дысертацыі: «Падставы, на якіх фармаваўся ідэя царкоўнай уніі ў Польшчы ў канцы шаснаццатага стагоддзя». Абараніў яе ў 1966 годзе, будучы вікарыем прыхода ў Сямятычах. Апублікаваў па-беларуску і па-польску больш за трыццаць кніг і сотні артыкулаў пра гісторыю праваслаўя. Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца асобныя манаграфіі праваслаўных прыходаў на Падляшшы, большасць з якіх была напісана ў супрацоўніцтве з Дарафеем Фіёнікам. У 1987 годзе стаў настаяцелем прыхода ў Рыбалах, дзе працягваў свае даследаванні. Ініцыяваў стварэнне тут Музея матэрыяльнай культуры «Бацькаўшчына». Актыўна дзейнічаў на грамадскай ніве. Духоўна падтрымліваў адраджаючыся пасля 1989 года беларускі рух. Узнагароджаны быў, між іншым, Кавалерскім крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Сярэбраным крыжам заслугі, двума ордэнамі Святой Раўнаапостальнай Марыі Магдаліны.

Пахавальныя ўрачыстасці ў царкве святых Кузьмы і Дзям'яна ў Рабалах узначальваў сямятыцкі епіскап Георгій. Аб памерлым успамінаў:

— Апрача святарскай службы айцец Грыгорый даў з сябе больш. Апрача малітоўнай памяці, якая будзе суправаджаць Яго душу, у нашых сэрцах пакінуў па сабе выдатныя, уражваючыя дасягненні, якія не толькі па навуковасці, але і з пункту гледжання жыцця нашай Царквы застануцца як бачны знак яго дадатковай службы, якую спалучыў са сваім святарствам. Магчыма, таму, што Яго святарства было больш спелым, больш глыбокім, таму што Ён ведаў заблытаная лёсы гісторыі нашай Царквы (...). Ён быў прыкладам такога айца ў святарстве, які трактаваў маладое пакаленне святароў як будучыню Царквы.

Мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк зачытаў ліст ад мітрапаліта варшаўскага і ўсёй Польшчы Савы, які, злучаючыся ў малітве і перадаючы сям'і айца Рыгора шчырыя спачуванні, у прыватнасці, напісаў: «Ён служыў Маці Царкве з поўнай самааддачай (...). Апрача пастырскага служэння Ён прысвяціў сябе навуковай і публіцыстычнай дзейнасці, даследуючы дзейнасць нашай Царквы ў цэлым, асабліва на Падляшшы, пакінуўшы ў сваіх публікацыях шмат каштоўнага гістарычнага матэрыялу з жыцця парафій, духавенства і паасобных храмаў. Такім чынам, Ён жыве і будзе жыць у наступных пакаленнях нашай Царквы».

— Гэта быў звычайны чалавек, але кажуць пра Яго «незвычайны». Я ведаю Яго з тых часоў, калі прыйшоў сюды на прыход у Рыбалах. Ён зрабіў для нашага прыхода вельмі шмат, і многія, таксама маладыя, карысталіся яго падказкамі, — не хаваючы свайго хвалявання, расказваў нам пан Марэк, цяпер жыхар Беластока, які даглядаў за парадкам вакол царквы перад развітальнай службай.

— Калі дваццаць адзін год таму згарэў дом маёй дачкі і яна выйшла з пажару моцна абгарэўшая, бацюшка Рыгор даў нам усё неабходнае. Дзякуючы Яму мы выжылі. Гэта быў проста добры чалавек, — успамінала Надзея Туроўская з Канюк.

Сярод многіх прысутных на развітанні з бацюшкам Рыгорам Сасной быў гісторык праф. Антон Міраповіч:

— Гэта быў выключны святар, да якога можна было прыехаць з рознымі, у тым ліку сямейнымі, асабістымі праблемамі, у любы час дня і ночы. У Яго быў дар любові да іншага чалавека. Ён быў не толькі вялікім спецыялістам па гісторыі Царквы, але і беларускага народа. Яго навуковыя працы звязаны не толькі з будынкамі, з матэрыяльнымі каштоўнасцямі, але таксама з тым, што кожны дзень звязана з жыццём нашага народа. Ён хваляваўся за будучыню народа і перажываў. Ён ведаў, што Царква не толькі сцены, але і людзі. Я ніколі не чуў, каб скардзіўся на сваё жыццё, свае праблемы. Для Яго другі чалавек быў вобразам Божым, шукаў у другім чалавеку Боскай часціцы. Калі ў 70-х гадах пачаў выдаваць першыя артыкулы пра гісторыю праваслаўных прыходаў, наўрад ці хтосьці над гэтым працаваў. Ён кіраваў навуковай працай многіх пакаленняў. Я выкарыстаў многія Яго парады, а затым здарылася так, што я быў прамотарам Яго доктарскай дысертацыі. Аднак я не чуўся Яго прамотарам, але Яго вучнем. Я не мог перадаць Яму столькі, колькі Ён перадаў мне. Ён паказаў мне перш за ўсё вялікую ролю гістарычных крыніц.

Гісторык Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства:

— Айцец Рыгор быў членам БГТ. Мы нават казалі, што гэта наш капелан. Ён быў для нас не толькі духоўнікам, але і гісторыкам з вялікімі дасягненнямі. Не было і няма так карпатлівага гісторыка нашай зямлі. Надзвычай старанна вывучаў гісторыю Праваслаўнай царквы на Беласточчыне, але і ў міжваеннай РП і ў сучаснай Польшчы. Дзякуючы Яму атрымалі мы вельмі падрабязныя зборнікі ведаў аб Праваслаўнай царкве. Ён быў таксама краязнаўцам. Пры нагодзе апісвання гісторыі паасобных прыходаў дакладна апісваў гісторыю гэтай зямлі. У выніку многія мясцовасці на Беласточчыне маюць спісаную сваю гісторыю. Заўсёды казаў: памятайце, што на шляху з Беластока ў Бельск ляжаць яшчэ Рыбалы. Заўсёды адкрыта вітаў гасцей, нават якія прыязджалі да Яго без папярэджання. Заўсёды была тут габрата, нешта да габраты і размова пра гісторыю і лёс нашага народа.

Старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі:

— Апрача таго, што быў святаром, гэта быў асаблівы чалавек, даволі асаблівага фармату духоўнік, таму што ўвесь час Ён быў вельмі актыўным інтэлектуальна. Да апошняга моманту Ён быў актыўным як навуковец і быў унікальным у гэтай галіне навукі, якой займаўся. Яго спадчына вельмі патрэбная для ўсіх нас, праваслаўных беларусаў Падляшша. Успамінаю Яго як багатага духоўна чалавека, з вялікім пачуццём гумару і заўсёды прыхільнага да чалавечых спраў.

Валянцін Карыцкі, радны Ваяводскага сейміка, былы член Ваяводскай управы:

— Я памятаю Яго, калі Ён служыў у Сямятычах, а тады я быў студэнтам. Мы ездзілі з моладдзю на сустрэчы, на якіх пераказваў нам гісторыю нашага рэгіёна, нашай Царквы. Для нас, маладых людзей, было гэта прыцягальным і захапляльным. Ужо тады Ён стаў нашым узорам. Ён заўсёды быў цёплым і сардэчным чалавекам, а тое, што Ён зрабіў для нашай Царквы і нашага рэгіёна, з'яўляецца неацэнным.

Яраслаў Вэрдоні, старшыня Форуму меншасцей Падляшша:

— Ніхто раней з такой адданасцю і ў такой ступені не займаўся ўвекавечаннем тутэйшай гісторыі, лакальнай Царквы. Гэта было проста неверагоднае. Тое, што сабраў нас вакол сябе ў апошні раз падчас калядных свят, мае сімвалічнае вымярэнне.

❖ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Словы шчырага спачування Матушцы Антаніне з сям'ёю з прычыны напаткаўшага яе гора смерці мітрафорнага протаіерэя Рыгора САСНЫ**

**выказвае рэдакцыя «Нівы» і беларускае асяроддзе.**



# Брусельская капуста

Дзіўная гэтая сучасная Еўропа, асабліва Заходняя. Яе ўжо таксама, як тую Расею, не зразумець ні сэрцам, ні розумам. Не зразумець яе палітыкі — як знешняй, так і ўнутранай. Многія такую палітыку называюць няйначай як самагубнай. І, праўдападобна, яны маюць абсалютную рацыю. Вось узрасла тэрарыстычная пагроза для Старога свету з боку ісламістаў і радыкальных эмігрантаў, якія наваднілі Заходнюю Еўропу. І еўрапейскія палітыкі, „пачасаўшы рэпу”, вырашаюць узмацніць кантроль на мяжы з такімі краінамі як... Беларусь ды Украіна. Меры прыняты, праекты па распрацоўцы новых бар'ераў выкананы, грошы выдаткаваны. Цяпер бяспека напэўна вырасце, заходнія еўрапейцы адгарадзіліся ад усходніх яшчэ большым мурам.

Далёка хадзіць не буду, бо найлепш усю ганебнасць падзелу еўрапейскімі бюракратамі на людзей розных гатункаў адчуваеш на сваёй скуры. Маю на ўвазе адбіткі пальцаў, якія зараз мусіць здаваць кожны грамадзянін Беларусі не толькі пры падаванні дакументаў на шэнгенскую візу, але і пры кожным (!) перасячэнні мяжы. Вось асабіста я апошнімі дзесяцігоддзямі ездзіў амаль па ўсёй Еўропе, як чалавек законапаслухмяны нічога не парушаў, атрымліваў шматразовыя візы ў амбасадах розных краін, з'яўляюся сябрам міжнароднай асацыяцыі журналістаў. Але нейкія брусельскія бюракраты вырашылі, што менавіта мы — беларусы — ствараем дадатковую пагрозу для Еўрасаюза. Ну добра, хай бы тыя адбіткі былі ў электроннай базе на ўсялякі выпадак. Але ж не так. Цяпер мусіш праходзіць гэтую прыніжальную працэдуру за кожным разам. Скажаце, што ў Беларусь трапіць еўрапейцу яшчэ цяжэй і даражэй — і гэта будзе праўда. Але ж тым і мусіць адрозніваца заходняя дэмакратыя ад постсавецкага таталітарызму, што межы еўрапейцаў ад іншых еўрапейскіх народаў павінны станавіцца больш адкрытымі.

А вось яшчэ адзін прыклад дзікага еўрабюракратызму. Ужо дастаткова дарослы сын маіх добрых знаёмых, малады чалавек з вышэйшай адукацыяй, захацеў атрымаць дадатковае навучанне па сваёй спецыяльнасці ў Аўстрыі. Накіраваў туды адпаведныя дакументы. Пры тым меў дзейсную доўгатэрміновую шэнгенскую візу. Аднак, аўстрыйскія чыноўнікаў гэтая віза не задавальняла. Прыехаць чалавек мусіў па адмысловай візе, зрабіць якую прапаноўвалася ў... Маскве. Заўважу, што з Гродна да Вены, а тым больш да Варшавы, бліжэй, чым да Масквы. У Мінску ж амбасады Аўстрыі няма. Маглі б у такіх выпадках штосьці адкрыць у пасольстве Нямеччыны — які-небудзь візавы пункт. Але не туды тое. А ў Маскве, прыехаўшы здалёк, здаць дакументы на візу не так проста, трэба прабыць у гэтым агромністым горадзе некалькі сутак. І калі вы думаеце, што ў гэты прыезд магчыма атрымаць візу патрэбнай катэгорыі, то вы не даацэньваеце вынаходлівасці еўрапейскіх „кручкатвораў”. Па візу патрэбна ехаць другі раз — праз месяц. Прычым зноў можна не ўкласціся ў адзін працоўны дзень, каб атрымаць яе на рукі. Дык што ж гэта за здзек з нармальных цывілізаваных людзей!? Некалі нашы людзі, пачынаючы са Скарыны, ехалі ў Еўропу па навуку без такіх складанасцей. Ды і самі гэтай Еўропе, ЗША, Ізраілю далі нямала.

У дзяцінстве мне часта даводзілася чуць народную прымаўку: „Ад капусты хлопцы тлусты, ад бацьвіня — дзеўкі свіння”. Перафразуючы яе, можна сказаць, што брусельская „капуста” прывяла да атлусцення не толькі целаў, але і мазгоў палітыкаў Еўрасаюза. Дэмакратыя на кантыненце перажыла свой залаты век і пераарадзілася ў алігархічную бюракратыю, якая хоча панаваць над усім, не задумваючыся ні пра лёс суседніх дзяржаў, якія трапілі ў бяду, ні пра лёс сваіх наступных пакаленняў Таму і расце ў самой Еўропе колькасць еўраскептыкаў, таму і нараджаюцца, развіваюцца розныя прафашысцкія, прапуцінскія рухі, якія шукаюць прымітыўных, а насамрэч катастрафічных развязак.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Суп на палачцы



Канец з каўбасамі! Такое было маё навагодняе абяцанне-рашэнне. Моцнае, непарушнае. Нядаўна я напісаў так шмат аб каўбасе, што мне аж моташна зрабілася на думку аб ёй. Толькі што тыя ўсе высокія абяцанні, якія даюцца ў навагоднюю ноч, варты столькі ж, колькі загадзя вып'епш шампанскага. Каб яшчэ толькі шампанскага! Нekалькі гадоў таму мой сябар па школьнай парце ў амоку навагодніх прысяг абяцаў жонцы кінуць курыць. Па сённяшні дзень хаваецца ад яе ў прыбіральні са сваёй несуцішнай звычкай. У вентыляцыйную кратку выдзьмухвае дым, паднімаючыся на дыбачкі, быццам бы гэты свайго роду тытунёвы смурод па кватэры не будзе разыходзіцца. А яго лыткі ад тых дыбачак зрабіліся такія моцныя, як быццам высечаныя ў мармуры Паліклетам — грэцкім скульптарам класічнага перыяду. Каб даказаць гэта, паказаў мне — не, не голыя лыткі — фатаграфію найбольш значнай працы старажытнага майстра, Дарыфора, іначай Дзіданосца. На самой справе, высечаны з мармуру юнак мае салідныя лыткі, яшчэ вылучаныя кантрапостам цэлай фігуры. Прынцып кантрапосту, які з'яўляецца процівагай вагі, масы, напружанасці і напрамкаў, здаўна выкарыстоўваны ў старажытнай архітэктуры, упершыню ў скульптуру ўвёў менавіта Паліклет. Лёгкі нахіл тазасцегнавой ліній таго дзіданосца балансуе нахіл у процілеглы бок ліній плячэй. Усю вагу постаці ўтрымлівае адна нага, моцна абапертая на падлогу; другая, мякка адштурхнутая назад, застаецца ў адпачынку. Гэтаму ладу ног адпавядае, у свою чаргу, процілеглая пазіцыя яго рук: адна актыўная — нясе дзіду, якую якраз скрышыў час, таму рука скульптуры пустая; у той час другая рука свабодна вісіць. У той жа час, каб уцісну ць у тую «актыўную» руку тлеючую цыгарэту, то, сапраўды, дзіданосец нагадваў бы мяне самога і школьнага сябру, калі мы ў прыбіральні, несвядома, але менавіта ў адпаведнасці з прынцыпамі кантрапосту, праводзілі на перапынках свае нікацінныя сесіі. Вось і такія добрыя эфекты нявыканаых навагодніх абяцанняў бываюць — паказваюць нашу глыбокую сувязь са старажытнай культурай.

Што тычыцца каўбасы, то яна была вядомай ужо ў старажытнай Грэцыі. Усё ж, нічога пра яе не піша Арыстоцель. Гамер таксама пра яе не згадвае ў сваіх вялікіх эпасах. Дарэчы, ці яе штодзённасць не ганьбавала б старажытнага высакароднага метрум вершаванага радка? Верагодна, каўбаса была вынайдзена ў даантычную эпоху міграцый народаў, як прадукт лёгкі ў транспарце і пасля высыхання трывалы. У любым выпадку, яна «выжыла», прытым у незлічоным выглядзе, да сучаснасці. І не толькі ў традыцыі нашых страўнікаў. Я не дам сваёй галавы, але ці не згадваў пра яе мастацкай трынаццікладовай фразай Міцкевіч у «Пану Тадэвушы»? Калі гэта так, то можна сказаць, што класік прывёў яе на салоны вялікай культуры. Прыкладна ў той жа час, што і Міцкевіч, нясмелыя спробы ўвядзення яе да палёту над драбнечай рэчаў зрабіў Хрысціян Андэрсен, аўтар метафізічных казак. Прынамсі, у мяне ёсць пра іх такая думка з самага ранняга дзяцінства. Я да гэтага часу памятаю адну з іх — «Суп з каўбаснай палачкі», якую чытала мне мая клапатлівая матуля. Прызнаюся, што я спачатку не мог зразумець, што гэта за такая «палачка», але мая мама выказалася педагагічным рэфлексам і прынесла з кухні яе верны ўзор. На самой справе, была гэта моцна пахучая вяндлярным дымам палачка, на якую калісьці закручвалі завязкі фаршыраваных мясам і саланінкай кішак. Сапраўдных кішак, а не штучнай абалонкі — гэта я прыводжу з увагі на маладых людзей, якія, магчыма, не ведаюць пра тое, як налапатаў папсаваліся чалавечыя апетыты. Я кончык тае палачкі паклаў у рот і ўсмактаўся ў ейны каўбасны арамат, старанна ўслухоўваючыся ў мамін аксамітны голас, якую ўпрасіў яшчэ раз прачытаць тую самую казку, бадай, ці не ў перакладзе Ярaслава Івашкевіча. Паслухаўшы яе, я катэгарычна запатрабаваў у мамы супу, вядома, зварнага на... каўбаснай палачцы. І стаўся цуд. Амаль адразу я атрымаў місачку гарачага супу з незабыўным смакам. Гэта быў просты кіслы суп — жур на каўбасе, да чаго мая маці прызналася толькі пасля многіх, многіх гадоў. Вельмі шкада, што сказала мне пра гэта. Але гэта ўжо іншая гісторыя. І так я канчаю, пра... каўбасу. А Чытачам «Нівы» жадаю не толькі ўсяго найлепшага ў Новым годзе, але і найлепшых смакаў дзяцінства, нават калі б яны былі высмактаны з палачкі.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Упаўнаважаны ваяводы

Новы падляшскі ваявода, да ўступлення на гэтую пасаду сенатар ад ПіС Багдан Пашкоўскі, каардынаванне пытанняў меншасцей у нашым рэгіёне даручыў быламу бургамістру Лап, быламу дэпутату ад ПіС (2005-2006), у апошні час раднаму Беластоцкага павета Раману Чэпэ. Працуе ён у яго адмысловай кансультатыўнай групе. Аднак меншасная праблематыка з'яўляецца адной з некалькіх, з якімі будзе мець справу, побач каардынавання абмену інфармацыяй паміж урадам і ваяводам і наглядам за працай органаў мясцовага самакіравання ў рэгіёне. Грамадскім упаўнаважаным ваяводы па справах меншасцей быў ён ужо ў 2006 г. З інфармацый, якія я атрымаў перад Новым годам у прэс-сакратара ваяводы Анны Ідзькоўскай, вынікала, аднак, што цяперашні ўпаўнаважаны ваяводы па справах меншасцей, былы сямятыцкі староста, звязаны з беларускім асяроддзем Мікалай Мантур, які займаў функцыю з даручэння Грамадзянскай платформы, меў яе выконваць да канца года: «Пакуль пан Чэпэ ў рамках сваіх абавязкаў будзе прыглядацца да пытанняў меншасцей, а ўпаўнаважаным — да прыняцця канчатковага рашэння, ці будзе прызначаны новы і ці ўвогуле ён будзе, застаецца пан Мантур».

Мікалай Мантур некалькі дзён да заканчэння старога года (грыгарыянскага) сказаў мне наступнае: «Яшчэ ў пачатку 2015 г. я з былым ужо ваяводам Анджэем Мэерам заключыў дамову да канца года, з двухтыднёвым паведамленнем аб яе скасаванні. Я не размаўляў з новым ваяводам, і не адважыўся ініцыяваць размову, што рабіць далей».

Незалежна ад таго, што ў гэтых адносінах будзе адбывацца (або адбылося, калі будзеце чытаць гэты нумар «Нівы»), варта нагадаць, што ў адпаведнасці з законам аб меншасцях з 2005 г., ваяводы маюць абавязак, між іншым, прымаць меры дзеля паважання правоў меншасцей і прадухілення іх парушэнняў і дыскрымінацыі ў дачыненні да асоб, якія належаць да меншасцей, і прымаць меры дзеля вырашання іх праблем. Ваяводы... могуць прызначыць упаўнаважанага па нацыянальных і этнічных меншасцях. Могуць, але неабавязкова.

З іншага боку, задачы ўпаўнаважаных ваяводаў па справах нацыянальных і этнічных меншасцей вызначае адмысловы «Кодэкс добрых практык». Паводле яго, да іх асноўных задач належаць м.інш. «маніторынг міжэтнічных адносін у рэгіёне, пасрэдніцтва ў канфліктных сітуацыях, праўдзенне мерапрыемстваў накіраваных на забеспячэнне павагі правоў меншасцей і прадухіленне іх парушэння, дапамога ў вырашэнні праблем гэтых суполак, а таксама прадухіленне магчымых канфліктаў, узаемадзеянне з органамі цэнтральнай і мясцовай улады і няўрадавых арганізацый і іншых устаноў, якія рэалізуюць задачы ў інтарэсах меншасцей, і стварэнне іх станоўчага іміджу». У «Кодэксе» адзначана, што іх «асабістыя погляды, меркаванні, і сімпатыі не могуць уплываць на суадносіны да асобных асяроддзяў меншасцей і прадстаўляючых іх грамадскіх арганізацый» і падкрэслена, што ўпаўнаважаныя маюць быць актыўнымі — удзельнічаць у мерапрыемствах арганізаваных меншасцямі, а таксама «мець веды аб дзейнасці кожнай з меншасных арганізацый», арыентуючыся ў іх актуальнай дзейнасці.

Упаўнаважаны Мантур перад скасаваннем кантракта хваліўся сваім удзелам у міністэрскай кампаніі па прасоўванні моў меншасцей на Падляшшы, удзелам у маніторынгавай сустрэчы па пытаннях «Стратэгіі развіцця асветы беларускай меншасці ў Польшчы» ці выдачай запыту да вучэбных устаноў, якія дзейнічаюць у гмінах дзе сканцэнтраваны меншасці (не атрымаў ніякага адказу). Бываў на мерапрыемствах, арганізаваных меншасцямі, хоць і не на ўсіх. Не прывёў — нягледзячы на неаднаразовыя абяцанні — да сустрэчы прадстаўнікоў беларускай меншасці з мясцовымі самаўрадамі ў справе выкарыстання двухмоўных тапонімаў і беларускай мовы ў якасці дапаможнай мовы ў гмінных установах ды не прыняў эфектыўных намаганняў па паляпшэнні фінансавага становішча арганізацый нацыянальных меншасцей.

Прынамсі было б дзіўным, калі б у шматнацыянальным ваяводстве не было самастойнай пасады такога ўпаўнаважанага. Але калі б яна была, асоба на такой пасадзе павінна добрасумленна выконваць свае абавязкі ў адпаведнасці з «Кодэксам добрых практык», што, улічваючы лішак абавязкаў, ускладзены на Рамана Чэпэ, здаецца быць наўрад ці магчымым. А і сам ваявода без адпаведнай асобы, якая займалася б толькі гэтым пытаннем, верагодна, не будзе ў стане сумленна выконваць палажэнняў Закона аб меншасцях, якія вызначаюць яго задачы ў гэтым плане.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Фотаконкурс «Падляшша ў аб’ектыве»




Рыгор Таранта з Кашалёў здабыў трэцюю ўзнагароду за здымкі з партрэтамі старэйшых людзей з Арлянскай гміны са шлюбнымі фатаграфіямі (каля гэтых здымкаў стаіць моладзь з Орлі і наваколля). На другім плане — фатаграфія з бярозамі, якой была прысуджана другая ўзнагарода (каля яе стаіць аўтар Ежы Пазнанскі)

Падвядзенне вынікаў адзінаццатага выпуску Агульнапольскага фатаграфічнага конкурсу імя Віктара Волкава «Падляшша ў аб’ектыве» адбылося ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы 19 снежня, у дзень святцеля Мікалая. На адным са здымкаў прэзентаваных на конкурснай выставе відаць партрэт жанчыны, над якой на цэнтральным месцы вісіць ікона святцеля Мікалая — святога асабліва прызнанага ва ўсім свеце. Сакральная тэма прысутнічала і на іншых вялікафарматных здымках. Да конкурсу прыступіла ажно 86 асоб, ад якіх камісія атрымала каля 300 здымкаў. Сярод іх 7 чалавек атрымалі вылучэнні, а 3 удзельнікі конкурсу сталі лаўрэатамі. На музейнай экспазіцыі прэзентуюцца 40 вялікафарматных фатаграфій, паводле конкурснай камісіі — самых лепшых. На здымках адлюстраваны прырода Гайнаўшчыны і іншых рэгіёнаў Падляшша, партрэты старэйшых вясковых людзей, даўняя архітэктура, асаблівыя сітуацыі, якія можна сфатаграфаваць выпадкова або пасля доўгага назірання за наваколлем. Члены конкурснай камісіі і сабраныя на адкрыцці выставы сцвярджалі, што здымкі зробленыя ў адпаведнасці з духам Віктара Волкава і з’яўляюцца яны прадаўжэннем яго думання і спосабу фатаграфавання.

— Узровень фатаграфій на выставе высокі. Уяўляюць яны прыгожае аўтэнтычнае Падляшша, а адзінаццаты выпуск фотаконкурсу сведчыць аб яго спеласці. Конкурс «Падляшша ў аб’ектыве» — добрая прамоцыя Гайнаўкі на Падляшшы і ў Польшчы, паколькі частка конкурсных здымкаў паказвае прыгожасць Гайнаўкі і наваколля, — заявіў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, ганаровы патрон фотаконкурсу, які адкрыў мерапрыемства.

Да фотаконкурсу прыступіла ажно 19 асоб з Беластока, 17 фатографаў-аматараў з Гайнаўкі, 5 удзельнікаў з Арлянскай гміны, 2 асобы з Бельска-Падляшскага, фатографы з Белавежы, Дубін, Сямятыч, Саколкі і іншых мясцовасцей Падляшскага ваяводства. Падляшша фатаграфавалі таксама асобы з 7 іншых ваяводстваў Польшчы і жыхар Беларусі, з Гродна. Тамаш Ціханюк, дырэктар Гайнаўскага белмузея, які з’яўляецца арганізатарам фотаконкурсу, сцвердзіў, што павышаецца ўзровень конкурсных фатаграфій, хутка павялічваецца колькасць удзельнікаў і ўзрастае значэнне конкурсу «Падляшша ў аб’ектыве». Становіцца ён штораз больш вядомым на Падляшшы і па-за нашым ваяводствам і таму лягчэй здабываць сродкі ад спонсараў, дзякуючы якім можна купляць больш вартасныя ўзнагароды і прэзентаваць на выставе вялікафарматныя копіі здымкаў. Медыйны патранат над белмузейным конкурсам трымалі польскія сродкі масавай інфармацыі і беларускія — Радыё Рацыя і «Ніва».

Конкурсная камісія, якую саставілі Бажэна Валенцік (старшыня), Тамаш Класоўскі і Яраслаў Хыра, звярнула ўвагу на маладых фатографаў-аматараў, з ліку якіх Рыгор Таранта з Кашалёў, вучань трэцяга класа арлянскай белгімназіі, здабыў трэцюю ўзнагароду. Група вучняў з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Орлі і вучні звышгімназічных школ з Орлі займаюцца ў фатографічным кружку ў Гміным асяродку культуры ў Орлі, якім апякуецца Пётр Нестаровіч, сын славутага кінааператара, фатографа і аўтара рысункаў Міколы Нестаровіча, ураджэнца Орлі. У гэтым годзе арлянскія вучні прымалі ўдзел у праекце «Ах, які ж гэта быў шлюб», падчас рэалізацыі якога ездзілі па вёсках Арлянскай гміны, размаўлялі са старэйшымі сужонствамі і рабілі ім здымкі з іх шлюбнымі фатаграфіямі ў руках. Некалькі вучняў даслалі гэтыя здымкі на конкурс «Падляшша ў аб’ектыве», у тым ліку згаданы Рыгор Таранта.

— Каб здабыць давер старэйшых людзей, трэба было з імі выпіць гарбату, паслухаць іх аповеды пра мінулае і запісаць. Тады трэба было знайсці цікавы фон для фатаграфіі, пачакаць ажно яны пераапрануцца, возьмуць у рукі шлюбныя партрэты і зрабіць ім многа здымкаў, каб злавіць іх натуральныя твары. Бывала, што вучні рабілі па некалькі дзясяткаў здымкаў, каб выбраць удалы, — расказваў Пётр Нестаровіч.

Арлянскія вучні зрабілі супольны здымак каля пераможных фатаграфій свайго сябры Рыгора Таранты, а павіншавала іх дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Анна Несцярук.

— Нашы вучні займаюцца ў фатаграфічным кружку ў Орлі. Падчас рэалізацыі праекта «Ах, які ж гэта быў шлюб» зрабілі цікавыя фатаграфіі. Прадбачаем рэалізаваць чарговыя фатаграфічныя праекты, якія дакументуюць нашу рэчаіснасць і мінулае, — гаварыла Анна Несцярук.

— Мой брат Рыгор прымаў удзел у конкурсе ўпершыню. Не разлічваў ён на перамогу і нават не прыехаў на абвяшчэнне вынікаў. Я прымаю ўдзел у фотаконкурсе «Падляшша ў аб’ектыве» чарговы раз. Завязу ўзнагароду майму брату. Мае фатаграфіі не былі ўзнагароджаны, але гэта мяне не знеахвочвае прыступіць да конкурсу ў наступным годзе, — заявіў Дам’ян Таранта з Кашалёў.




Першую ўзнагароду атрымаў Юзаф Нядзелька з Беластока, які на трох узнагароджаных фатаграфіях прадставіў будынак Падляшскай оперы і філармоніі, кірмаш рукадзелля ў Беластоку і вяршыню касцёла св. Роха ў Беластоку на фоне месяца ноччу

Марлена Каліна з Орлі таксама даслала фатаграфіі з праекта «Ах, які ж гэта быў шлюб» і здымкі прыроды Арлянскай гміны ды атрымала дыплом.

— Мы не ведаем аўтараў ацэньваных намі фатаграфій. Я ўзрадаваўся, што трэцюю ўзнагароду атрымаў так малады фатограф з Арлянскай гміны, які выканаў цікавыя здымкі старэйшых людзей, — сказаў член журы Яраслаў Хыра з Гайнаўкі.

Другую ўзнагароду атрымаў Ежы Пазнанскі з Беластока за фатаграфію бярозавага лесу, якога палову відаць на шкляной сцяне будынка Універсітэта ў Беластоку.

— Я аматар, але фатаграфаваць вучыўся ў Віктара Волкава, якога я асабіста ведаў. Нават пабываў з ім на некалькіх фатаграфічных пленэрах, між іншым у Белавежы, дзе мы фатаграфавалі пушчу. Выконваючы ўзнагароджаную фатаграфію, я трымаўся падказак Віктара Волкава. Я прыхільнік прэзентавання натуральнай некратнутай фатаграфіі, але мой сябра, які больш прафесійна займаецца фатаграфаваннем, іншай думкі. На ўзнагароджаным здымку я ўзмоцніў колеры, — сказаў Ежы Пазнанскі.

Член журы Тамаш Класоўскі заявіў, што выдатная большасць конкурсных фатаграфій паказвае мінулае Падляшша, а здымак Ежы Пазнанскага — адна з самых лепшых на выставе фатаграфій сучаснага Падляшша.

Першую ўзнагароду атрымаў Юзаф Нядзелька з Беластока, які на трох узнагароджаных фатаграфіях прадставіў вяршыню касцёла св. Роха ў Беластоку на начным фоне месяца, кірмаш з вырабамі рукадзельнікаў на Рынку Касцюшкі ў Беластоку і шыкарны будынак Падляшскай оперы і філармоніі, які відаць на фоне прыгожай прыроды і адлюстраваны ў вадзе. Тамаш Класоўскі заявіў, што падобныя сюжэты фатаграфій на конкурсах паяўляюцца, але пераможныя здымкі былі асабліва дапрацаванымі. Каб нешта сфатаграфаваць на фоне месяца, трэба знайсці адпаведны час і месца. Цікавыя фатаграфіі з адлюстраваннем аб’ектаў у вадзе патрабуюць таксама адпаведнага надвор’я і добрых умеласцей.

Сярод асоб, якія атрымалі вылучэнні, апынулася былая настаўніца Гайнаўскага белліцэя і павятовая радная Ядвіга Дамброўская з Гайнаўкі, якая сфатаграфавала падчас фэсту жанчын з Плянты на фоне іх рукадзелля: Галіну Бірыцкую са сваімі карункавымі і вышыванымі вырабамі, і Малгажату Краўчык з карункавымі працамі. Вылучаным на конкурсе здымкам была фатаграфія з выявай чалавека пад дахам царквы ў Відаве, мабыць, іканапісцам, аўтарства Анны Саевіч з Гайнаўкі. Марыя Баравік з Гайнаўкі атрымала вылучэнне за здымак зубра, які качаецца на паляне або полі, на фоне Белавежскай пушчы. Адам Фалькоўскі з Бельска-Падляшскага, які быў ужо лаўрэатам конкурсу, на гэты раз атрымаў вылучэнне за тры фатаграфіі з людзьмі на фоне будынкаў. Вылучэнні атрымалі яшчэ Малгажата Пякарская з Белай-Падляшскай, Януш Нойман з Добрага Мяста і Дар’юш Мыган з Сямятыч. На фотавыставе ў Гайнаўскім белмузеі можна паглядзець іншыя цікавыя фатаграфіі. Я на адным здымку заўважыў цікавы краявід у ваколіцы Новага Беразова, на які раней не звяртаў увагі. Гэтае месца цікава сфатаграфавала прыезджая асоба, можа адна з турыстак, якія часта фатаграфуюць драўляную архітэктуру ў Новым Беразове, старыя хаты, царкву, часоўню і краявіды каля вёскі. На экспазіцыі побач партрэтаў людзей былі здымкі з зубрамі, каровамі і коньмі.

— На выставе бачым многа прыгожай прыроды, цікавыя партрэты, старую архітэктуру і добра, што побач дакументавання мінуўшчыны паяўляюцца здымкі сучаснага Падляшша. Цікавы здымак з раскапанай дарогай у Еўропу выканаў Аляксандр Ласмінскі з Гродна, які ведаў Віктара Волкава і рашыўся даслаць здымак на конкурс, — гаварыла Агнешка Ціханюк, спецыяліст па мастацтве ў белмузеі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

**Традыцыйныя і сучасныя куты ў праваслаўных дамах, прыстасаваныя да малітвы, можна ўбачыць на фотавыставе «Святыя куты Падляшша», арганізаванай у памяшканнях Цэнтра праваслаўнай культуры ў Беластоку (вул. св. Мікалая, 5). Выстава з'яўляецца першым этапам, вянчаючым праект «Святыя куты Падляшша — знікаючая традыцыя праваслаўнай вёскі», праведзенага Асацыяцыяй «OrthNet». Аўтарамі фотаздымкаў з'яўляюцца Тамаш Гжэсь, студэнт механічнага факультэта Беластоцкай палітэхнікі і Тамаш Паскробка, фотажурналіст партала «Cerkiew.pl», навуковы супрацоўнік Універсітэта ў Беластоку.**

# СВЯТЫЯ КУТЫ ПАДЛЯШША





■ Злева а. Яраслаў Юзвік, Тамаш Гжэсь і Тамаш Паскробка



Суадкрываючы разам з аўтарамі выставу (29 снежня) а. Яраслаў Юзвік, ураджэнец Беластока, настаяцель Свята-Мікалаўскага прыхода ў Тапільцы, адзначыў:

— Святы кут не ўзнікае проста так. Існуе старая гістарычная кніга на рускай мове «Дамастрой» (апублікаваная ў пятнаццатым і папоўненая ў шаснаццатым стагоддзі; гэта зборнік правілаў і палажэнняў, якія рэгулююць лад сямейнага жыцця баяраў і купцоў і іх стаўленне да цара і рэлігіі ў Расіі — М. Х.), якая апісвае, як павінен быць аформлены праваслаўны дом. Гэта можна ўбачыць і на старых карцінах, дзе святы кут знаходзіцца з правага боку ад уваходу ў хату. Як апісана ў «Дамастрою», такі вугал павінен быць размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы хаты, хоць ён згадваецца ў кнізе больш на ўсходзе. У здымках на выставе можна ўбачыць, што ў цяперашні час гэта не заўсёды так. Гэта ёсць месца, дзе знаходзіцца вянчальная ікона, якую маладых благаславілі іх бацькі, дзе моліцца і аб'ядноўваецца ў малітве ўся сям'я. Уваход з фотаапаратам да гэтых хат патрабаваў вялікай адвагі, каб увайсці ў гэтае братэрства малітвы і месца, дзе атрымлівалася дабраславенне для ўсіх відаў цяжкасцей, слугавання, у якім кожны маліўся, каб Гасподзь Бог паслаў ласку.

У размове з «Нівай» дадаў:

— У святых кутках многіх дамоў знаходзяцца сямейныя іконы. Маем у іх быццам бы перамяшанне святых. Там атрымлівалася дабраславенне, калі мужчына ішоў на вайну, перад вяселлем, пры ім сустракалі гасцей. Перш за ўсё гэта было месца супольнай малітвы. У маёй бабулі ў Пяньках святы кут быў у кожным пакоі, але адзін быў асаблівы — гэтак жа, як гэта апісана ў «Дамастрою».

У апісанні выставы арганізатары адзначылі: «Святыя куты прымаюць розныя формы, напрыклад, сцяну, кут, палічку, на якіх знаходзіцца ікона або крыж. У мінулым такія месцы былі ўпрыгожаны вышытымі ручнікамі, карункамі і кветкамі. Сёння яны набываюць больш сучасныя формы, але яны па-ранейшаму важныя, часта складаюць цэнтр дома. Праект «Святыя куты Падляшша — знікаючая традыцыя праваслаўнай вёскі» дазволіць увекавечыць іх на фатаграфіі і паказаць іх разнастайнасць».

Тамаш Гжэсь прызнаўся нам, што цікавасць да фатаграфіі атрымаў у спадчыну ад свайго бацькі:

— Ідэя выставы нарадзілася зусім спантанна. Святыя куты з'яўляюцца элементам, які ў сённяшніх дамах рэдка сустракаецца. Падарожнічаючы па вёсках, напрыклад, да маёй бабулі ў Гродзіск недалёка ад Ласінкі, у дамах можна было іх сустрэць часта яшчэ нядаўна. Мы хацелі паказаць іх разнастайнасць: тыя з традыцыйных дамоў, і больш сучасныя, пажылых людзей, але і маладых. У некаторых дамах у такім куце знаходзіцца толькі адна ікона з завешаным ручніком і нязначна ўпрыгожаная. У іншых ёсць цэлы набор ікон, кожная з якіх для ўладальнікаў дома значыць вельмі шмат. У 2016 годзе мы хочам удакументаваць яшчэ больш кутоў і прадставіць іх шырэй.

Паказаныя на экспазіцыі фотаздымкі былі зроблены, у прыватнасці, у ваколіцах Новаберазова і Гарадка. У цэлым, праект уключае ў сябе Беластоцкі, Бельскі і Гайнаўскі паветы.

— Вельмі важным для нас было, каб кожны кут сфатаграфаваць з чалавекам, які жыве ў даным доме, каб кут атаясамліваўся з кімсьці канкрэтным, — кажа Тамаш Гжэсь. — Мы хацелі паказаць, што складаюць яны важны элемент хаты, таму на многіх фотаздымках паказаны багата аздобленыя куткі, напрыклад, ліхтарамі. Самы незвычайны кут мы бачылі ў адным з дамоў у Гарадку, з многімі іконамі, не толькі павешанымі на сцяне, але і з многімі ляжаўшымі на стале, і кожная з іх мела сваю ўласную гісторыю. Заўсёды мы стараліся прыходзіць са святарамі, мясцовымі бацюшкамі, каб члены сям'і адчувалі сябе больш нязмушана і не хавалі нічога. Дзякуючы прысутнасці духавенства людзі быць больш адкрытымі, расказвалі, які вельмі важным кампанентам іх жыцця з'яўляюцца куты. Аказалася, што нават пасля перасялення не аддавалі ікон у царкву ці не хавалі ў шафах, але вешалі на сценах новых дамоў. Але гэта знікаючая традыцыя. У дамах, у якія мы траплялі, жылі ў асноўным пажылыя людзі. Толькі ў некалькіх наткнуліся мы на такія куты ў маладых. Няма больш такога культу святых кутоў. У рамках праекта мы хацелі паказаць, што яны значаць больш чым толькі ўпрыгожанне хаты, дэкарацыя, што гэта важны элемент духоўнага жыцця. На жаль, ніхто на рэлігіі не вучыць, якую важнасць маюць святыя куты. Мы былі ў стане прадставіць на выставе толькі пятнаццаць аб'ектаў і засяродзіліся на гінучай традыцыі падляшскай вёскі, хоць у Беластоку і іншых гарадах у некаторых дамах яна таксама ўтрымаліся. Дарэчы, святары падказвалі нам, што многа з іх яшчэ можна знайсці якраз у Беластоку.

Тамаш Паскробка падкрэсліў:

— Для ўсіх нас удзел у гэтым праекце асабісты. Агульная ідэя была ў тым, каб паказаць адыходзячую традыцыю, надзвычай важную з духоўнага пункту гледжання. І гэтае вымярэнне мы хацелі паказаць перш за ўсё. У ходзе нашага даследавання мы выявілі, што, насуперак распаўсюджанаму меркаванню, ідэя святых кутоў не знікае, хаця ў такім традыцыйным стылі гэтак ёсць. Сёння ў многіх кватэрах ікона вісіць на адной са сцен, але не ў куце, не ахінутая ручніком, і не ад усходняга боку.

Дадаў:

— Кожны раз, пасля здымак, пасля таго як у домаўладальнікаў адымалі мы крыху прыватнасці, не пакідалі іх з пустымі рукамі. Мы заўсёды атрымлівалі падарунак ад гаспадароў, яны заўсёды былі ўдзячныя, але гэта ў асноўным мы павінны аказаць ім удзячнасць за тое, што ўпусцілі нас у сваю асабістую прастору. Гэта было вельмі прыемным, бо ў горадзе забываемся, як можна быць адкрытым і дружалюбным у адносінах да іншых.

Аляксандр Васылюк, старшыня Асацыяцыі «OrthNet», ініцыятар, сузаснавальнік і каардынатар парталаў «Cerkiew.pl» і «Orthphoto.net», былы старшыня Брацтва праваслаўнай моладзі:

— Мы разважалі з Марыюшам Нікіцюком, як выкарыстоўваць магчымасці для атрымання грантаў для праекта, звязанага з культываваннем нашай мясцовай традыцыі, і што мела б сувязь з Царквой. Мы прыйшлі да высновы, што такім вызначальнікам, арыгінальным і тыповым на Падляшшы з'яўляюцца святыя куты і, такім чынам узнікла задума напісаць заяўку на грант для такога праекта.

Адна з удзельніц вернісажу Ірэна Красоўская з Беластока ў гутарцы з «Нівай» нагадала:

— У маім доме не было такога кута, але ў маёй свякрухі ў Шасталах надалёка Бельска-Падляшскага заўсёды быў у адным з пакояў з іконай, загорнутай у ручнік. Кожны раз, калі мы прыйшлі з мужам да яе на Каляды або Вялікдзень, устаючы з-за стала, у малітве мы звярталіся ў бок святога кута. І ў яе кухні таксама вісела ў куце іконка.

Іншая з аглядаючых выставу, таксама пажылая жанчына, распавядала:

— Традыцыя, звязаная са святым кутом, у мяне дома наказвала, што іконы нельга завешваць на цвіку, таму што на цвіках быў распяты на крыжы Хрыстос. Найлепш было паставіць ікону на палічцы.

Выстава будзе адкрыта да канца студзеня. Пры нагодзе адкрыцця, Аляксандр Васылюк успомніў нам пра праект, для якога «OrthNet» атрымаў грант у мінулагодняй размяркоўцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі: «Беларускія лёсы: Іерамія — наш архіепіскап з Адрынок». Будуць гэта размовы пра веру з архіепіскапам Іераміем на беларускай мове ў рамках пятнаццаці праграм, публікаваных у інтэрнэце:

— Мы хочам паказаць асобу архіепіскапа Іераміі як чалавека адсюль, які дасягнуў поспеху, і як гэта важна для нашага асяроддзя. Гэта паказвае, што беларус з Падляшша здольны дабіцца многага і не саромецца таго, хто ён ёсць. Гэта аўтарытэт для многіх людзей, асабліва для звязаных з Брацтвам праваслаўнай моладзі. Ідэя ў тым, што мы хочам рэалізаваць цыкл прысвечаны розным асобам, якія дзейнічаюць у інтарэсах мясцовай супольнасці і якія звязаны з Царквой. Пачнем з архіепіскапа Іераміі, але плануем прадставіць і мастакоў, і грамадскіх дзеячаў актыўных таксама ў Царкве.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

Фота: Facebook/Roki



# Гурт з падляшскім ландшафтам

Прыгожыя краявіды Кнышынскай пушчы, маляўнічыя падсакольскія вёскі ці супрасльскі Тэатр „Вершалін" гэта важныя элементы Падляшскага багацця, якія перамотваюцца ў музычных кліпах гурта „Рокі". У іхняй творчасці адчуваюцца сімптомы новай арыентацыі, накіраванай на лакальнасць, на тутэйшасць. Відаць ідэнтыфікацыю гурта з месцам пражывання, культурным ландшафтам рэгіёна.

„Рокі" гэта рок-гурт з ваколіц Беластока, які іграе музыку натхнёную такімі культавымі капэламі, як „Guns N' Roses", „Red Hot Chili Peppers" і „Foo Fighters". Цікавае, што гурт складаюць асобы, якія прадстаўляюць розныя пакаленні. У групе выступаюць дзевяцігадовы Павал (перкусія), дзесяцігадовы Міхал (вакаліст), сямнаццацігадовы Лукаш (гітара) і трыццацівасьмігадовы Пётр (басіст). Аднак розніца ўзросту не перашкаджае, а наадварот, узбагачае іх каларыт. Асаблівую ўвагу звяртае вакал маладога Міхала, вучня пачатковай школы ў Васількаве. Яго настаўніцай спеваў з'яўляецца Эліза Сахарчук з беластоцкага Артыстычнага цэнтра, таксама вядомая як вакалістка фольк-гурта „Саракіна". Яе голас можна пачуць у музычным кліпе „Ліпіна" гурта „Рокі".

**Ліпіна — месца ад якога ўсё пачалося**

Ліпіна — вёсачка ў Кнышынскай пушчы на шляху Чорная-Беластоцкая — Сакolка. Якраз тут, у будынку былой пачатковай школы, бліжэй пазнаёміліся героі гурта. Летась у час канікул зладзілі яны там музычныя майстар-класы, якія далі штуршок для ўзнікнення песні пад такім жа загалоўкам. Песня закранае тэму вяртання чалавека, які жыве ў гарадскім мурашніку, да месца свайго дзяцінства, якое атаясамліваецца са спакоем, бестурботнасцю. У музычным кліпе наперамену перамотваюцца карціны з беластоцкіх дзесяціпавярховых пасёлкаў, з маляўнічымі палянамі Кнышынскай пушчы. Як прызнаюцца аўтары песні, якраз Ліпіна стала свайго роду сімвалам шматлікіх падобных на сябе падляшскіх вёсак, якія пусцеюць. Дзесяцігоддзямі моладзь пакідала беластоцкія вёскі ў пошуках лепшага жыцця, кар'еры ў горадзе.

— Для нас гэта нешта незвычайнае, — кажа Пётр. — Падчас працы мы трапілі ў такое месца як Ліпіна, пра якую спяваем. Мы былі ўпэўнены, што дзякуючы сябрам здзейсняцца нашы мары. Хацелі мы ў музычным кліпе паказаць такую краіну, якую многія з нас памятаюць з дзяцінства, дзе час не бяжыць так хутка.

Фота: Facebook/Roki



Музычны кліп гурта „Рокі" кранае вельмі важную тэму тоеснасці чалавека, якая не можа быць спазнаная без вяртання да сваіх вытокаў, месца, з якога мы выводзімся. „Вернешся сюды" — тая фраза ўвесь час паўтараецца ў песні „Ліпіна", аўтарам якой з'яўляецца Пётр Чабан. Мабыць, некаторыя з нашых чытачоў памятаюць гурт „RF Braha". У ім ён пачынаў сваю дарогу ў рок-музыку. Для аўтара гэтай песні яе словы магчыма асабліва блізкія. Даўжэйшы час Пётр прабываў у Англіі, дзе туга па родным адчуваецца мацней. Аднак і для маладзейшай часткі гурта словы песні неабыякавыя. На бубнах у гурце іграе яго дзевяцігадовы сын.

**Не дазволіць паглынуць сябе віртуальнай прасторай**

Гурт у сваіх музычных кліпах паслядоўна звяртаецца да характэрных месцаў Падляшша. Гэта напрыклад раней згаданая Ліпіна — тыпова беларуская падсакольская вёска, але і Тэатр „Вершалін" у Супраслі — візітная картачка сучаснай сцэны. Дзякуючы тамашнім артыстам стала магчымым увекавечыць у музычным кліпе магію супрасльскага тэатра. Музыкі і гэтым разам накіроўваюць слухача на істотныя пытанні сучаснасці, у якой можна загубіцца ў віртуальнай прасторы. „Ілюзіі загубяць цябе, памалу абуджайся (...) бо натура іншая, чым віртуальны тэст" — гучыць у другім кліпе гурту „Рокі". І хаця быў ён створаны цалкам нядаўна, ужо прыняў удзел у найбуйнейшым польскім фестывалі відэакліпаў „Yach Film". Песня гучала ў некаторых польскіх радыёстанцыях.

— Для нас супрацоўніцтва з такой установай еўрапейскага фармату як Тэатр „Вершалін" гэта сама сабой ужо поспех, — прызнаецца лідар гурта Пётр. — Калі я пазваніў да іх з просьбай запісаць музычны кліп у тэатры, яны, праўда, згадзіліся, пэўна думаючы, што будзем спяваць нейкія калядкі. Пачуўшы нашу песню, адзін з акцёраў з ахвотай выступіў у кліпе. Мы пакарысталіся сцэнаграфіяй аднаго з іх апошніх спектакляў. Для мяне гэта было несамавітае ўражанне — атрымаць падтрымку ад такой установы. Мала таго, запрапанавалі далейшую супрацу пры чарговых кліпах. Гэта падбадзёрвае.

**Пачынаем са свайго панадворка**

Усе сябры гурта нарадзіліся на Беласточчыне. Нехта жыве ў Чорнай-Беластоцкай, нехта другі ў Васількаве, ці нехта родам з-пад Крынак. Іхняя творчасць цесна звязваецца з нашай падляшскай прасторай. Пакуль што пабачыць на сцэне гурт „Рокі" можна было ў Беластоку і ваколіцах. Апошнім разам выступілі супольна з іншымі музыкамі на XXIV Фінале Вялікага аркестра святочнай дапамогі ў сталіцы падляшскага ваяводства. Беручы пад увагу прафесійнасць і непаўторнасць іх музычных кліпаў, гуртом штораз больш цікавяцца мясцовыя СМІ. Як мяркуюць музыкі, пакуль што іх лакальны поспех хутчэй за ўсё вынікае з сугучнасці таго што паказваюць з тым, аб чым спяваюць.

Уля ШУБЗДА

## Трансгранічная канферэнцыя

17 снежня 2015 года ў Гарадскім цэнтры культуры ў Высокім (Рэспубліка Беларусь) адбылася міжнародная канферэнцыя, прымеркаваная да завяршэння рэалізацыі праекта пад назвай „Паляпшэнне трансгранічнай сістэмы аховы навакольнага асяроддзя гмін Чаромха і Высокае пры дапамозе пашырэння каналізацыйнай інфраструктуры". Праект рэалізавалі Чаромхаўская гміна разам з партнёрамі: Гарадскім выканаўчым камітэтам г. Высокае, Таварыствам самаўрадаў „Белавежская пушча", таксама Гарадскім аб'яднаннем шматгалінавага прадпрыемства камунальнай гаспадаркі „Камянецкае ЖКХ". Задача была рэалізавана пры фінансавай дапамозе Еўрапейскага інструмента суседства і партнёрства ў рамках Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва „Польшча — Беларусь — Украіна 2007-2013". Канферэнцыю адкрыў мэр г. Высокае Мікалай Сачык, які прывітаў гасцей, затым падзякаваў выканаўцам з польскага і беларускага бакоў за супрацоўніцтва і станоўчую рэалізацыю трансгранічнага праекта. Рэцэнзентамі асноўных прынцыпаў праекта, у тым ліку кошту праекта, тэрміну рэалізацыі, мэт і эфектаў інвестыцыі, таксама ўздзеяння гэтай жа інвестыцыі на паляпшэнне аховы асяроддзя ў прыгранічнай зоне, як і на ўдасканальванне трансгранічнага супрацоўніцтва былі Ірыней Леанюк з Чаромхаўскай гміны і Ірына Старавойтава з „Камянецкага ЖКХ". Падзяку за супрацоўніцтва і захады па прыцягненню еўрасаюзных сродкаў на рэалізацыю задачы выказалі Аляксандр Галавач — дырэктар прадпрыемства „Камянецкае ЖКХ", Людміла Дудар — дэпутат гарсавета, дырэктар Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі г. Высокае, Марыя Іванюк — сакратар Чаромхаўскай гміны і Сяргей Смык — старшыня Рады гміны, а таксама Леанід Бірук — былы мэр г. Высокае.

Згаданая інвестыцыя была рэалізавана з лістапада 2013 г. па снежань 2015 г. Кошт задачы склаў 3 640 836,68 еўра, пры чым 3 276 753,01 еўра — гэта сродкі еўрасаюзнага дафінансавання, што склала 90% кваліфікаванага кошту. У выніку была пабудавана ачышчальная сцёкаў, каналізацыйная сетка даўжыней у 8278 м і тры каналізацыйныя помпавыя станцыі ў Чаромсе ды 16144 м каналізацыйнай сеткі і сем каналізацыйных помпавых станцыйў г. Высокае. Дзякуючы пабудаванай каналізацыі больш за тры тысячы жыхароў па абодвух баках мяжы атрымалі магчымасць падключыць дамашнія гаспадаркі да каналізацыйнай сеткі.

У час канферэнцыі дырэктар Таварыства самаўрадаў „Белавежская пушча" Ян Хомчук запрэзентаваў іншы трансгранічны праект „Супольна ахоўваем Белавежскую пушчу", у якім удзельнічае Чаромхаўская гміна.

У мастацкай частцы выступілі лакальныя калектывы Гарадскога дома культуры г. Высокае.

Уладзімір СІДАРУК

## Распаўсюджваймa „Ніву"

Ад некалькіх год займаюся распаўсюджваннем святочнага нумара „Нівы" з календаром у сваёй вёсцы Кузаве і ў Чаромсе-Станцы. Першапачаткова разыходзілася пяцьдзясят экземпляраў. З кожным годам лік маіх кліентаў павялічваецца. Сёлета ўзяў я ў рэдакцыі семдзесят экземпляраў. На працягу трох дзён разышлося пяцьдзясят дзевяць асобнікаў. У Кузаве, напрыклад (працуе тут паштовае агенцтва), пятнаццаць асоб купіла „Ніву". Другое столькі ж разышлося ў Гміннай управе. Але найбольш разыходзіцца на чаромхаўскім рынычку па пятніцах і суботах. Паколькі сёлета ў тры чарговыя ўік-энды рынaчак не збіраўся па прычыне святочных выхадных, некалькі знаёмых з Чаромхі-Станцыі, а нават з Чаромхі-Сяла паклапаціліся прыехаць за „Нівай" да мяне ў Кузаву. Народ, значыцца, не цураецца сваёй нацыянальнай тоеснасці. Абажае „Ніву". Каб так было штодзень, а не ад свята...

Карыстаючыся нагодай хачу павіншаваць чытачоў і прыхільнікаў „Нівы" з Божым Нараджэннем і пажадаць усяго найлепшага ў Новым годзе — шчасця, здароўя і прыбытку ў хаце!

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# У МЯНЕ ЁСЦЬ ВЯЛІКАЯ МАРА!



— А ці падзелішся з сястрычкай узнагародай? — пытаем у Вікторыі Госцік.

— Так, гэта, лічу, наша супольная ўзнагарода, — кажа вучаніца чацвёртага класа школы ў Міхалове.

Вікторыя прыехала са сваёй сястрой Габрыеляй. Яны блізнючкі. Жывуць у лясной мясціне Саколе.

— Але найбольш з усяго на свеце, — прызнаецца Вікторыя, — мне падабаецца наша школа.

— Што ў канкрэтнасці?

— Сяброўкі, урокі, калі ў нас на ўроках размаўляем, пішам... Хоць — не. Найбольш файна, калі ў нас пачынаецца беларуская мова. Заўсёды не магу дачакацца гэтага моманту!

Вікторыя ніколі не думала, што атрымае вылучэнне ў конкурсе «Дэбют». Гэта для яе вялікая нечаканасць, сюрпрыз. На грунце роднай мовы яна ставіць першыя крокі. Свае вершы напісала на ўроку, які вядзе пані Эмілька Грыка. Ці мае з кім пагаварыць па-беларуску ў сваёй хаце? Тут у дзяўчынкі загараюцца вочкі.

— Я размаўляю з бабуляй і дзядулем. Яны апавядаюць як калісь жылі людзі, што адбывалася ў нашай сям'і. А мы з сястрой прысядзем і слухаем як зачараваныя, нам гэта вельмі цікава...

Вікторыя ходзіць у чацвёрты клас, але яна ўжо ведае, што хоча рабіць у дарослым жыцці. Яе мара вельмі нас суцешыла. Мала, калі дзеці думаюць і кажуць такое.

— Хачу быць настаўніцай беларускай мовы, — упэўнена кажа лаўрэатка.

Зорка, фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Габрыеля ГОСЦІК*
*Саколе, ПШ у Міхалове*

## *Колеры*

*Восень малюе лісточкі,*
*На жоўты, аранжавы і чырвоны.*
*Калі яны ападуць,*
*Дзеці пачынаюць гульню прыгожую!*

## *Юля*

*Ці гэта пятніца,*
*Ці субота,*
*У мяне заўсёды работа.*
*Я з сяброўкай гуляю!*
*І Юлькай яе называю!*

*Вікторыя ГОСЦІК*
*Саколе, ПШ у Міхалове*

## *Дождж*

*За вокнамі дождж,*
*На вуліцы ўжо*
*Малая рэчка плыве,*
*А мы гэтак сядзім,*
*А мы гэтак глядзім.*
*Якая тут восенню*
*прыгажосць?*

## *Школа*

*Мая школа гэта*
*шчасця краіна,*
*Тут хуценька бяжыць*
*кожная гадзіна,*
*Калі дамоў прыходжу,*
*З сяброўкамі на тэлефоне*
*Гутарку аб школе наводжу.*

## Ціс

Ай, расцеш ты вечныя гады,
лісце распускаючы ў два рады,
цяпер устойлівы і да гарадскіх умоў.
Да трох тысячаў дажывеш ці ты гадоў?
Чырванаватая твая цісовая кара
свяціла з кожнага саліднага двара,
ці ты быў дрэвам ці кустом мягкой-травы.
А ў хатах былі дзверы, вокны і сталы,
калыскі й песні-казкі з сівай даўніны...
Ай, стаўляйце сталы свае цісовыя,
засцілайце абрусы свае шаўковыя,
садавіцеся на лавы цісовыя,
на цісовенькія ды на новенькія...
Акно ў нас цісовае, шыба крышталёвая...
Ціс тысячагодні, і песня няновая.
З кожным новым кольцам на жывой драўніне
песня пакаленняў у памяці не згіне.

**Міра ЛУКША**

Малюнак Аляксандры Чабай



УВАГА КОНКУРС!
№ 03-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 24 студзеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

**(з народнага)**

**Ехаў камісар — на акне напісаў**
**М....**

**За сцяною, касцяною, талатай брэша**
**Я...**

**Адказ на загадкі № 51-15: літарка «о». Узнагароды, адукацыйныя гульні на тэму прыроды Сувальскага ландшафтнага парку, выйгралі Іаанна Нікіцюк і Марлена Лабаноўская з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Дзясяты юбілей «Казкі»




**21** лістапада 2015 года ў вялікім зале Гміннага цэнтракультуры ў Гарадку сабралася многа гасцей і сяброў дзіцячага школьнага калектыву «Казка», каб супольна святкаваць непаўторны юбілей. Першы раз у нашай мясцовасці юбілярамі былі дзеці. Сярод гасцей былі войт гміны Веслаў Кулеша, старшыня Рады гміны Вячаслаў Госцік, а таксама радныя Гарадоцкай гміны, бацюшка Мікалай Астапчук, кс. Станіслаў Каханоўскі, дырэктар ГЦК Юрка Астапчук, дырэктары Калектыву школ у Гарадку Анна Грыцук і Данута Гаркоўская, а таксама былыя дырэктары Вера Тарасевіч і Альжбета Грэсь. На мерапрыемства прыехалі спадар Анатоль Парэмбскі, мясцовы паэт, які напісаў «Казцы» прыгожы верш і журналістка радыё Беласток Анна Пятроўская, якая ўзяла інтэрв'ю ў дзяцей і настаўніц-заснавальніц калектыву Марыі Абрамовіч і Катажыны Кокець.

«Казку» заснавалі дзесяць гадоў таму назад настаўніцы пачатковага навучання, спадарыні Марыя Абрамовіч і Катажына Кокець. Праз гэтыя гады калектыў удзельнічаў у многіх прэзентацыях, праектах, конкурсах, мерапрыемствах у школе і ў асяроддзі. «Казка» стала рэкламай гміны Гарадок і самой школы. Дзеткі былі лаўрэатамі конкурсу беларускай песні на раённых і цэнтральных этапах. А на дзясятыя ўгодкі выйгралі конкурс беларускай песні ў Бельску-Падляшскім.

Падвядзенне вынікаў працы калектыву на працягу дзесяці гадоў магчыма было пабачыць у ГЦК, дзе Марыя Абрамовіч, Катажына Кокець, Альжбета Раманчук і Катажына Кананчук падрыхтавалі выстаўку фатаграфій, вопраткі і вершаў пра «Казку», напісаных паэтамі, а таксама хроніку працы калектыву, у якую свае пажаданні ўпісвалі ўсе сабраныя на юбілеі госці.

Наймалодшыя ўдзельнікі «Казкі», пад акампанемент Генадзя Шэмета, пачалі мерапрыемства. Дапамагаў ім «Асенні ліст» з Гарадка. Гледачы мелі магчымасць пабачыць фільм пра «Казку», зняты спецыяльна да юбілею. У якасці адукацыйнага праекту ў гімназіі, пад кірункам Альжбеты Раманчук і Марыі Абрамовіч, вучаніцы Аляксандра Яроцкая, Соня Сульжык і Габрыеля Цюньчык прафесійна і адначасова весела паказалі калектыў і яго працу. Дзяўчаты атрымалі цёплы прыём. Фільм папярэдзіў зачытаны Соняй Сульжык верш, напісаны «Казцы» Анатолем Парэмбскім, паэтам з Валілаў-Станцыі.

Артыстычную частку вяла Анна Трахімчык, якая супольна з Лукашом Зіневічам праспявала беларускія песні. Гарадоцкія жыхары і адначасова выпускнікі школы таксама спявалі на юбілеі. Сярод іх былі Аляксандра Абрамовіч, Габрыеля Налівайка, Дар'я і Аляксандра Астапчук, Дар'я Сержан, Аляксандра Азябла і цяперашнія вучні Аляксандра Яроцкая і Сара Кандрацюк. Узровень выступаў дзяцей і моладзі быў вельмі высокі. Крылатыя словы, прыгожая музыка, настрой прыводзілі да ўзрушэння. Усе былыя і сучасныя казачныя песняры праспявалі гімн калектыву.

Дзеткі атрымалі многа пажаданняў, падарункаў і цёплых слоў. Вечар завяршыўся салодкім пачастункам, падрыхтаваным бацькамі. Торт спадарыні Евы Маркоўскай прыцягваў увагу здымкамі ўсіх удзельнікаў калектыву «Казка».

**Альжбета РАМАНЧУК**,
настаўніца беларускай мовы ў Гарадку

## Вершы Віктара Шведа



### Можа будуць шанцы

Пажарнік па драбіне
Зносіць старавіну.
Як можа, так галубіць,
Просіць заціснуць зубы.

— Дык ты назад вярніся,
Там зубы засталіся.
На столку ў шклянцы,
Яшчэ мо будуць шанцы.

### Рыжы і лысы

Рыжы лысага сустрэў:
— Пакрыўджаны ты лёсам,
Бог валос даць не хацеў,
Ты ж з галавой босай.

— Рыжыя мне Бог даваў,
Не хацеў быць ліскай.
Я валос тых не прыняў,
Не цярплю я лысых.

Ганна САДОЎСКАЯ, Валілы-Двор

### Коцік і лужа

Кропіць дождджык: кап-кап-кап!
Робіць лужы – хляп-хляп, хляп!
Па той лужы ходзіць коцік,
Загубіў ужо ў лужы боцік.
Слёзкі губіць, сумны ходзіць,
Ужо па пашкі ў лужы бродзіць
Бедны коцік, згубіў боцік...
— Мусіць, ноч мяне захопіць?!.
Тады лужа не стрывала
І так коціку сказала:
— Не плач, коцік, не бядуй,
Сонца высушыць ваду.
Знойдзеш боцік,
Мілы коцік!

## Польска-беларуская крыжаванка № 3-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 51:**

Наш, патоп, тур, Варшава, жук, арол, каштан, конкурс, траса, тры. Ток, кот, ар, жанр, вушка, кактус, ара, шанс, твар, водар, пчала.

Узнагароды, звапісныя кніжкі, выйгралі **Вікторыя Гаць, Марлена Лабаноўская, Кацярына Лаўрашук, Іаанна Нікіцюк, Магда Рошчанка** з Бельска-Падляшскага, **Рафал Новік** і **Карнелія Барэчка** з Нараўкі. Віншуем!



**На памяць УСІМ замучаным, расстраляным, спаленым, вывезеным у час вайны — на 70-годдзе яе пераможнага заканчэння.**

Марыя САШКА

# GRANDE VALSE BRILLANTE

частка IV

Назаўтра немцы пачалі выгортваць жыдоў з надрэчнага хлява... Там многа было ўжо нежывых!.. Іх прыказалі несці з сабою!.. Іх пагналі ў лес, за каталіцкія могілкі, дзе Васіль і Пракоп, ад учора, выкапалі велічэзную яму-магілу!.. Прыгнаных было не менш тысячы!.. Перапынку не было, кулямёты грэліся да чырвонасці!.. У магілу падалі і жывыя, асабліва дзеці!.. Дзень-два яма варушылася, хадзіла, танцавала!.. Яе засыпалі прыгнаныя вяскоўцы з Заблотчыны... Васіль і Пракоп, з жонкамі, тут жа пайшлі ў расход!.. Гаварылася — нехта па дарозе быў уцёк, у падскупаўскі лес схаваўся, колькі іх было — ніхто не ведаў, але выйшлі па хлеб і ваду — каб уцякаць далей — але іх злапалі! С-в-а-е! Н-а-ш-ы!..

Максім вярнуўся вечарам у пятніцу. Шчаслівы!.. У Свіслачы, сястра яго-акушэрка, заапекавалася цяжарнай... Да родаў было недалёка; усё прайшло, была потым звестка, па звычаю, нармальна... Рускую прапісалі як сваячку з-пад Баранавіч, яна — на шчасце — гаварыла па-нашаму, была з-пад Бабруйска...

Пачуўшы аб расправе з жыдамі, Максім заплакаў!.. Ён сардэчна дружыў з сынамі старога пекара Цаліка Фінстэра, Мойшам і Самсонам!..

Калі расказы дайшлі да коней і салдатаў, Максім толькі сказаў: — Ну, а як мела быць інакш?.. Правідлова!.. Як звaць?.. Мішай?.. Свой — значыць!..

Дзед дадаў: — Будзем спадзявацца, што знутры ў яго ўсё цэлае, не разбітае на кускі, толькі набалеўшае!.. Юнак ён, пабачыш, сільны на від, пад метраў два! Бог благаславіць — сілы перамогуць!.. Хадзіць ён, аднак, не можа!..

Салдат Міша, так ён называўся, відавочна пачаў папраўляцца. Рану на жываце, хоць вялікую, зацягвала; наўкругі пачала яна набіраць сіне-жоўта-чорна-чырвонага колераў; г-о-в-і-ц-ц-а, значыць!..

Аднойчы ён узяў Надзін за руку, пацалаваў, сказаў: — Пасядзі трошкі, золатка, добрая ты!.. І прыгожая вельмі, сястрычка, табе хто гаварыў пра гэта?..

— Максіме, што і як радзіць будзем? Салдацік наш папраўляецца! — сказаў аднойчы дзед. — Думаю так, дарагія, — адказаў бацька, — будзем гаварыць, што гэта сын нашай Сцяпулі, што пад Навагрудкам: там работы няма — ён нам у гаспадарцы памагаць дастаўся!.. Польскія дакументы забралі саветы, рускія — западзеліся, то адно войска, то другое!.. Не здаецца вам, ці толькі мне гэта кажацца? Хлопец гэты нейк падобны да нашага навагрудскага Тамаша, што з польскай арміі не вярнуўся, і рост такі, і чарнявасць!.. Той з польскай арміі не вярнуўся, вайна 1939 застала яго на Вестэрплятэ ці ў Гдыні, здаецца, га?.. Відна, бедачына, загінуў, мне ў Свіслачы Оля наша плакалася!..

— Пайду да Казіміра тут нашага, Паўлоўскага, ён у гміне далей працуе, аўсвайс папрашу, назаву, каб не путацца — тожа: Тамаш Касцюшка, як у Навагрудку, сын Міхала і Стэфаніі; бо і наш жа казаў, што па-бацьку ён Міхайлаў... гэты савецік, а то заплёнтаецца дзе, загубіцца!..

— Ну, бо як інакш думаеце?.. Што тут учынім?.. А Казімір дапаможа! Сыны ж нашы Ванька і яго Уладзік, цэлае жыццё як спрэжаныя ходзяць! Апошні час ва ўланах па Кракаве ездзілі!.. Хто цяпер ведае — што з імі? Высахлі тут мы ад думак гэтых! Дзе іх армія, дзе палкоўнікі?.. Саветы ж былі рагаталі, што нашыя давудцы польскія ў Румынію драпанулі-паехалі! Мо й нашы з імі? — хоць звестак няма. А мо й саветы заграбасталі іх яшчэ й у 1939-ым?..

— Казімір пайме наш боль, свой такі ж маючы, хоць у нас трох хлопцаў няма!.. Антоша — Ваня — Стэфак, пагібель нейкая іх забрала! Як паражыць?!. Казімір жа — добрая людзіна, усе знаюць!.. Ён пытаў мяне ў нядзельку, я ішоў у царкву, ён з жонкай у касцёл, пастаялі мы-паплакалі-пагаравалі! Боль жа ў нас адной масці, хоць у нас трайны!.. Дзе хлопцы нашы? Як пра іх казаць: ёсць — былі?.. Пасумавалі мы тады, ледзь слёзы паўцiралі!.. Ды ў храм Божы, кожны ў свой, пра дзяцей Хрыста прасіць!..

Наступіў 1942 год, марозны, траскучы, больш трыццаціградусны, наровячы спяшаючыся пад сорак!.. Вокны людзі закрывалі палотнамі, мяшкамі, радзюжкамі; шкло трэскалася, кара дрэў распадалася ў садках, разляталася, снегу было пад стрэхі!..

У лютым Казімір паклікаў Максіма. — Braciszku, nie dam rady, dwójki twojej nie schowam, rozkaz mamy młodych do Niemiec wysyłać, kontyngent mamy, do pracy!.. Wychodzi — Tomasza muszę zapisać, Nadine na razie uchowam, może on tam jakoś się użyje?.. Wiesz, pytał mnie o Tomasza doktor Kuczyński: „Panie Kazik — mówi — dziwny jest ten Maksymowy swojak, po polsku on jakoś nie bardzo łebski — choć i Kościuszko — jakby nie z naszych?.. A ja mu mówię: — A jak pod Nowogródkiem-Lidą czy Stołbcami, na białoruskiej wiosce, dla naszych Kościuszków czy Mickiewiczów, polskie, panie doktorze, w lasach uniwersytety, do szkół wielkich daleko! Do Wilna — kawałek drogi wielgachnej!..” Niby go przekonałem, mi się zdaje!..

У доме Вінярскіх быў горкі плач!.. Надзін не хавалася са слязамі!.. Усе тут не ад сёння бачылі, што маладыя няпроста глядзяць на сябе!.. Аставалася толькі п-і-л-ь-н-а-в-а-ць, каб!..

Тамаш (так яго тут цяпер велічаюць) пачарнеў ад пачутага!.. Сказаў: — Так як дасюль, вы мне будзеце: Мама, Тата, Дзедка! Праз вас я і жыву! Бо не было б мяне даўно на свеце, каб я не да вас прыпоўз у тую страшэнную ноч з бліскавіцамі і коньмі!. Надзін! — я цябе к-а-х-а-ю моцна, праўдзіва, раз першы ў жыцці, я не ведаў дасюль такога! Што са мной тварыцца?!. Я вярнуся, сюды ці індзей, я знайду цябе ў кожнай часціне свету, дзе б ты ні была, потым! Праз пяць ці пяцьдзясят гадоў! Ты толькі вер і чакай, я буду жыць, б-у-д-у, чуеш? Я маю для каго жыць!..

І ён п-а-е-х-а-ў на зборны пункт у Гайнаўку.. Пісьмо прыйшло з Любекі, з фабрыкі: ц-я-ж-к-а! На змены мы, і ў начы!. За прамах-недагляд — б'юць! — Значыць, у доме вырашылі, ваенны завод!..

У чэрвені забралі Надзін!.. Не ўратаваў яе Казімір!.. Пад Гамбург, у садагарод, вялікую агароднінную ферму, дзе ўжо працавалі беларусы, украінцы, французы, датчане, рускія... Было ад яе пісьмо, яны спісаліся з Тамашкам, гэта было недалёка, мо 50-60 кіламетраў, мо — пабачацца якась?..

Трудна было паверыць, што ў час вайны ёсць такое ціхае, соннае нават, мястэчка, дзе пад лесам, на велічнай паляне, распалажыліся агароды-парнікі-інспекты, дзе былі палі і лугі з вялікім статкам дародных кароў, дзе былі коні, дзе гагатала, кудахтала ўсякая гаспадарская птушыная стая, дзе былі самаходы... Тут жа і стаяў, як у немцаў, упарадкаваны, выгодны, чысты, прыгожы дом, усякія іншыя гаспадарскія пабудовы, дзе жылі работнікі... Гэта быў хутар Бухгольцаў... Гэта было мястэчка Тэтэнзен — Tötensen — у так званай акрузе-запаведніку: Rosen-Garten — Ружовым Агародзе...

Была там усякая агародніна: памідоры (іх многа), капуста, агуркі, салат, часнок, цыбуля, буракі, радыска, фасоля, маркоўка, вадзіліся шпарагі, цвятная капуста — па нашаму каляфіор, ды французскія пацісоны і шампіньёны... Усё гэта вазілі ў Гамбург, самаходамі, фурманкамі; амаль кожны дзень... Укладна, ціха, размерана, планава, дакладна... Працавала, прысланая ўладамі з розных краін моладзь, працавалі, не аглядаючыся, і самі гаспадары: агароднік Франц, яго жонка Грэтхен, нявестка Шарлота — з малым, амаль гадавалым Паўлем — удава пасля старшага сына, Ганса, што ў Грэцы наляцеў нядаўна самаходам на партызанскую міну, і — наймалодшы — Курт, якога восьвось мелі тожа адправіць на фронт. Усіх бралі, не хапала салдат. Курт часта, вечарком, іграў на фартэпіяна (ён пасля музыкальнай школы, гаварылася — раней у іх — пра гамбургскую філармонію), што сям'я і рабочыя любілі слухаць...

Ішоў час, спакойна, без спешкі... Nadine, якую і тут ужо т-а-к называлі, французы ж — з першага дня! Паволі прывыкала яна да сваёй працы ў парніках, парадак і планавасць якой вельмі напаміналі дамашні распарадак таты і дзеда пад роднай Пушчай. І там, і тут была складнасць, любоў да працы, стараннасць... Адразу яе тут прыкмецілі гаспадары за ўмеласць і акуратнасць...

Аднаго разу, у нядзельку Курт заіграў... Шапэна!.. Надзін амаль не самлела!.. Яна нікому нічога не сказала, толькі ціхенька ўцёрла набеглыя слёзы!.. Ш-а-п-э-н!.. Гэта быў — ёй бы яго не пазнаць! — калі Антоша іграў гэта н-я-р-а-з! — Паланез As-dur, велічны і сільны! І — галоўнае — потым — Вялікі Вальс Брыльянт!. Курт іграў цудоўна, як — калісь — яе брат!.. Усплыў яго канцэрт у «Доме Людовым», заразкі перад вайной!.. Антоша ўпёрся тады паехаць у Варшаву, і — не вярнуўся, прапаў без весткі!..

Nadine плакала!.. Слёзы цяклі патокам: дзе ён? Ці жыве? Варшава ўвесь час маўчала, там былі ўжо немцы!.. Якая кансерваторыя? Які Шапэн?..

А тут, як жа нечакана, сёння, зноў у музыцы, у гуках нябесных, заблішчаў парыжскі свет XIX стагоддзя, у адну шарэнгу сталі спяваць тэмы танца ў сваім натхнёным рытме! Ш-а-п-э-н, Вялікі Фрыдэрык, як бы і НЕ было, нідзе! — вайны на свеце!..

Калі назаўтра, у панядзелак, Курт прыйшоў у парнікі — доўга, доўга глядзеў у бок Nadine... Ён ведаў адкуль была моладзь; яго доўгі позірк гаварыў, што ён іграў гэта д-л-я я-е!.. Другім жа было ўсяроўна: грае — дый грае! — прыгожа — ды й усё тут! Якія кампазітары? — ці важна, калі гэтак меладычна?.. Надзін і раней прыкмеціла, што Курт глядзіць на яе нейк па-асобаму, здароваецца з ёю ласкава, з усмешкай...

Дзесь позняй восенню, беларусачка з-пад Полацка, Аўдоська, сказала Nadine: — Няўжо ён у цябе ўлюбіўся, вось, так проста, звычайна?.. Ім жа нельга т-а-к, у рабоў-нявольнікаў? А ён за табою сочыць!.. А дзе ж тут чыстасць расы?..

Надзін адрапартавала: — Ты, Аўдоська, усё цераз вялікасць распорка твайго Васілька, што жыў у Маладзечне, мераеш і бачыш!.. Не пляці ўсякай бздурэнцыі!..

Курт прыносіў на плячах, амаль кожны раз, малога Паўля, які тут — як кожны паўсёды малыш — пробаваў ужо паволі хадзіць; паказваў усё падрад ручкай, нешта гугнiў — па-свойму тлумачыў-называў; тыкаў пальчыкамі ў розныя варыва і, бяскопца, смешна стараўся дапытацца: «вась-іс-дась?»... А гэта сьто, а сьто гэта?»... Сарве, бывала, маленькага памідорчыка ці, знойдзе сярод лісцяў агурочка, і н-я-с-е, падаючы, т-о-л-ь-к-і да Nadine!.. Яна брала, усміхалася, дзякавала!.. А хлопчык быў ш-ч-а-с-л-і-в-ы! І шчабятаў: Надзін, Надзін!..

Быў дзень, калі Паўль, бегаючы, рвануў быстра ўперад, спатыкнуўся, паляцеў на тачку, упаў тварыкам у капусту, голасна плакаў!.. Nadine, да якой ён бег (ну, пэўна, ударыўся, забалела!) з маркоўкай, падхваціла яго, пагладзіла па галоўцы, хустачкай сваёй выцерла яго слёзы, нос і шчокі, абцерла пясок з галавы, дала кусочак хлеба са сваёй кішэні, павяла да маленькіх чырвоненькіх памідораў... На другі дзень Паўль прынёс Надзін два цукеркі!.. Бабка Грэтхен падзякавала ёй за малыша, сказала: пад сам вечар прыйсці ў іх дом...

(працяг будзе)



# Драбіна

**У кустах побач дарогі паміж Страбляй і Гусакамі стаіць — а мо ўжо яе там і няма — асаблівая драбіна з паламанымі ніжнімі пруткамі. Ды паламанымі асаблівым паскаральным рытмам, дзе тыя верхнія з паламаных прыступак былі зламаны, калі так можна сказаць, памалей, значыць менш яны адхілены ад друкоў, а самыя ніжнія былі паламаны больш фур'ёзна. Значыць на тую драбіну задзейнічала нейкая немалая маса, якая рвалася да нашай зямелькі з зямным паскарэннем велічынёю, як вядома з курсу фізікі, амаль у дзесяць метраў у квадратную секунду. Загадкава, якая гэта была маса — ці гэта быў цікавы невядома чаго чалавек, які лез пабачыць з драбіны невядома што, ці мо кавалак нейкай планетоіды з космасу. Бо калі б там абваліўся чалавек, дык напэўна апрача масы былі б у яго яшчэ і нервы, пад уздзеяннем якіх ён бы паказаў той драбіне, дзе ракі зімуюць і не стаяла б яна побач дарогі паміж Гусакамі і Страбляй, горда пазіруючы свету, быццам пераможны рыцар, які ў баю атрымаў сур'ёзныя, аднак несмяротныя раненні.**

Прылада, якую ў нас называюць драбінай, крыху далей на ўсходзе атрымала назву лесвіцы. Верагодна пайшла яна, значыць назва, ад слова лезці, бо ж і па драбіне лазіцца. Этымалагічны слоўнік Галіны Цыганенкі: „Это существительное образовано с помощью суффикса *-иц-а* от такого же по значению существительного *лества*, которое в свою очередь произведено посредством суффикса *-тв-а* со значением орудия действия (как *бритва*) от глагола *лезти*, *лезть*. Следовательно, слово *лестница* по этимологии значит как бы 'то, посредством чего лезут, то, по чему лезут'". Хіба і ў слова драбіна паралельная этымалогія. Мяркую так па даведцы Зыгмунта Глогера ў ягонай Старапольскай энцыклапедыі: „Drab, żołnierz, piechur, wyraz pochodzący ze słowa średniowieczno-niemieckiego *draben*, iść lub biedz krokiem miarowym, dreptać". А па драбіне ***drepcze się*** менавіта ***krokiem miarowym***. Слоўнік польскай мовы: *drobić* — stawiać drobne kroki, dreptać...

Памяркоўным крокам то хадзілі выключна калісь, сёння ж здараецца так, што найбольш мадэрны народ ужо не тэпае і не лазіць, толькі мчыцца стрымгалоў. Ды не толькі ў гарызантальным напрамку, але і па вертыкалі. Вось жа драбіна доўгі час сімвалізавала пад'ём па вертыкалі і то не ў літаральным, фізічным сэнсе, але больш у сэнсе метафарычным. Адной з найранейшых згадак пра драбіну знаходзім у Старым Запавеце, калі яна сніцца патрыярху Якаву, і менавіта там яна сімвалізуе духовы пад'ём, духовае лунанне ў напрамку Нябёсаў. Крыху раней у тым жа Запавеце была згадка пра Вавілонскую вежу, якая ў агульным сэнсе была таксама драбінай, паводле некаторых уяўленняў спіральнай, названай тады зікуратам. З часам развіваецца чалавечы інтэлект і людзі ўжо горда не лазяць у неба па вавілонскіх вежах, але ўзлятаюць туды больш вытанчана, духова.

Адной з такіх духовых драбін была драбіна, спраектаваная на схіле VI стагоддзя сінайскім манахам Іванам Лесвічнікам, якая складалася з трыццаці прыступак — трыццаці ступеней духовага ўдасканальвання. Аўтар праекта так тлумачыў сваю задуму: „Паводле данага мне сціплага розуму, я, як просты архітэктар, спраектаваў драбіну для ўзыходжання. І няхай кожны прыглянецца сабе, на якой ён стаіць прыступцы".

Далей жа аўтар паказвае, што тыя прыступкі надта рэлятыўныя, што яны, як цераз прызму, бачацца інакш з розных пунктаў гледжання. „Срэбралюбства пачынаецца пад прывідам раздачы міласціны і канчаецца нянавісцю да міласціны патрабуючых; срэбралюбец бывае ласкавы, калі збірае грошы, а калі іх назбірае, тады ягоная горсць зацікаецца. Гэтак жа як чэрпаючы ваду з крыніцы мы незнарок зачэрпваем і жабу ў вядро, гэтак жа і дабрадзейнічаючы мы машынальна далучаемся да сплецены з дабром страсцей. Напрыклад, з любоўю сплятаецца блуд, з роздумам каварства, з мудрасцю хітрасць, з лагоднасцю лянота і г.д. І да ўсіх гэтых дабрадзействаў прыліпае напышлівасць, як своеасаблівы духовы яд".

І калі так добра разглянуцца навокал, то ў агульнасці відаць, што людзі, перабіраючы прыступкі сваіх жыццёвых драбін, валочаць у сваіх вёдрах меншыя або большыя жабы. Што ў масавым прынцыпе дабрадзействы ўспрымаецца як дабрадзейства сабе. А яскравым прыкладам гэтаму з'яўляюцца нашы апошнія палітычныя выбары. Бо ці ж якая-небудзь са спаборнічаючых партый прапанавала нашаму вербальна шляхетнаму грамадству нейкія шляхетныя паводзіны, прыкладу нейкай дапамогі бліжняму? Магчыма, што я занадта блізарукі, але не ўдалося мне такога заўважыць. Затое як на далоні бачнае адваротнае: наша грамадства масава кінулася на абяцаныя яму залатоўкі, на більёны нават іх. Абяцаныя з бюджэту. Гэты вектар дзеяння асабліва выразна відаць у палітыцы, дзе кандыдаты да наяўнага карыта абяцаюць усенароднаму народу карыта абяцанае. І, як бачна па навакольных прыкладах, гэтая прынада пасляхова спрацоўвае. Вось жа ў нас цяпер людзі горача, быццам у прысаку, лічаць абяцаныя ім не толькі більёны, але і звычайныя абяцаныя з тых більёнаў залатовачкі. Аглянуўшыся ў польскае мінулае трыццацігадовай даўнасці ці ў сучасную беларускую рэчаіснасць лёгка заўважыць, што вялікія лічбы вялікія толькі колькасцю нулёў. Аднак народным масам няма аглядкі на одум, калі перад імі заззяюць тыя нулі; прыкладам гэтаму нашы апошнія выбары, дзе народ наш усенародны рвануўся да тых нулёў быццам да нябеснай манны. І наша шляхетнае грамадства кінулася на той бюджэт як тое сярэднявечнае шляхетнае рыцарства на драбіны, прыстаўленыя да муроў нейкай крэпасці, разлічваючы на грабеж усялякай залатовачнасці за тымі мурамі. Як славутая саранча. Спадзяюся, што слова саранча не выкліча нейкіх надта рэзкіх асацыяцый, якія, напрыклад, магло б выклікаць слова карыта...

А слова карыта ў нас вельмі папулярнае, асабліва ж у тых народных мас, якія пазіцыянуюцца пад драбінай. І яно, тое слова, тое карыта, прычэпліваецца тымі нізамі, тымі быццам крышталічнымі і шляхетнымі душамі, тым душам, што бачацца над драбінай, тым душам, у якіх быццам жабы ў вёдрах. Бо драбіна гэта не толькі тая драўляная ці металічная, ці нават шнуровая канструкцыя, але гэта і грамадская структура з грамадскімі слаямі, займаючымі розныя адносна сябе пазіцыі. Гэта ж грамадскія касты, не толькі ў Індыі, але і ва ўсюткім свеце. І той агульны сусветны народ таксама намагаецца на тую драбіну як найвышэй улазіць. А калі ўжо ўлезе на нейкі верх, то зубамі і кіпцюрамі трымаецца тае выгаднае прыступкі. І то не толькі ў палітычных структурах вельмі нам фамільярнага візантыйскага вываду. Рыба шукае дзе глыбей, а чалавек дзе выгадней, напрыклад у нянавіснай многім ныцікам Заходняй Еўропе...

Ці ж апошнія нашы выбары не былі такім апалчэнскім штурмам на менавіта карыта? На карыта з залатовачнай нажывай? І ці ж той народ, што бачыцца над драбінай, глянуўшы на той народ, што так замітусіўся пад драбінай, не можа сказаць пра яго, пра той паддрабінны народ, што ён рвецца да карыта, быццам саранча? Што ў таго паддрабіннага народа квакаюць жабы ў быццам шляхетных крышталічных душах?..

У сваю чаргу той паддрабінны народ можа апраўдвацца пагаворкай, што рыба псуецца з галавы, значыць зверху, з тых найвышэйшых слаёў. Адно толькі тыя, што на найвышэйшых прыступках, паўлазілі на тыя вярхі акурат з нізоў. Акурат тыя нізы, рвануўшыся чарадою на тую найбольш традыцыйную, бо грамадскую драбіну, вынеслі са сваіх саслоўяў тыя няўстойлівыя на карыта галовы, з жабамі ў душах. Гэта нізы стварылі сабе куміраў — на вобраз свой і падабенства. Як гэта згадваецца ў адной з Дзесяці запаведзяў...

Была тут згадка пра саранчу. І яна невыпадковая. Бо ж людскія масы, тыя чалавечыя натоўпы, паводзяць сябе акурат так як раі саранчы, як раі пчол, як статі птушак, як касякі рыб, як чароды птушак, як табуны дзікай ці нават свойскай звярыны. Мала таго, гэтыя ўсе зборышчы фаўны паводзяць сябе так, як нейкія неадухаўлёныя пылінкі, калі іх узнімае нейкі парыў ветру. У людзей, як і ў жывёл, дзейнічае прынцып локця, калі ў натоўпе чалавек выключае свой розум, а ўключае заміж яго локаць, перастаючы быць індывідумам, а становячыся пылінкай у тлуме, залежнай ад паводзін найбліжэйшых па вобразе і падабенстве. Гэтыя чалавечыя паводзіны заўважаюць апошнім часам псіхолагі і сацыёлагі, гэтыя паралелі чалавечых паводзін з паводзінамі акружаючага нас космасу. І мяркую, што ход апошніх выбараў у нашай краіне стане пажыўнай сыравінай для даследаванняў не толькі сацыёлагаў ці псіхолагаў, але пажыву на гэтай падзеі знойдуць розныя адносна адлеглыя ад іх спецыялісты, ці то біхевіярысты, ці то фізіёлагі, ці фізікі, ці матэматыкі.

Медыцынскія работнікі таксама маюць тут неблагія перспектывы, бо паводзіны тлумных груп сходныя, напрыклад, з паводзінамі ракавых клетак. Астаецца толькі раскрыць у тых апошніх крыніцу стымулу локця, які пхае тыя злаякасныя клеткі на іхнюю драбіну, дзеля нейкай нажывы. Раскрыць той стымул, каб дабіцца пераломнага медыцынскага поспеху. Не ведаю толькі, ці прынцып локця не з'яўляецца тым фундаментам нашай прыроды, нашага Космасу, як і прынцып драбіны, якія здаюцца быць абсалютна непарушнымі. Нікім. У тым ліку і створанымі на ўзор і падабенства грамадскімі пылінкамі з жабамі ў душах.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Фота Іаланы Чабан

# Анёлкі з крушынянскай ёлкі

— Усё ўцякае. Завуць мяне **Марыя Кулакоўская**. Нарадзілася я ў Крушынянах, 20 кастрычніка 1931 года, дзявочае прозвішча Краскевіч. Жыла ў Астраўку, цяпер, апошнія гады свайго жыцця праводжу ў Крынках.

**— Што такое Каляды?**

— А што ж я магу ведаць. Каляды — усе гаварылі Каляды і Каляды. Свята. Божае Нараджэнне называлі Калядамі, а калядой — перадсвяточную вячэру. Акрамя таго, на Каляды хадзілі валакальнікі — іх таксама называлі каляднікамі. Менавіта на Каляды яны хадзілі, спявалі, віншавалі.

**— Якой была Вашая Каляда ?**

— Найважнейшая была куцця. Сёння раздаюць прасфорку, а калісь ставілі на стале міску куцці і колькі душ у хаце, столь© было ў гэтай місцы лыжак. На стале былі таксама аўсяны кісель, аладкі ...

**— Што такое аладкі?**

— Бліны, па-польску рацухы. Бывала рыба, як у каго, хто меў, той меў. Быў селядзец...

**— З алеем?**

— З алеем і цыбуляй, але калі не было алею, падавалі іх толькі з цыбуляй. Калісь селядцы былі надта тлустыя, не такія як сёння. Калі мылі селядзец, вада была тлустая, ажно з яго цякло. Сеўшы да стала, маліліся, а потым бралі куццю, тройчы, такі быў абавязак узяць тры лыжкі куцці, а потым ужо ясі, што хочаш.

**— Чаму менавіта тры лыжкі?**

— Так было прынята, не ведаю чаму. Бог у трох іпастасях, мабыць таму: Бог Айцец, Бог Сын, Бог Дух Святы. І бралі тройчы. Ага, а ў нас былі яшчэ лазанкі.

**— Што гэта такое?**

— Лазанак не ведаеш? Слізікі па-нашаму. Рыхтавалі цеста як на макароны і рэзалі на квадратныя альбо дыяганальныя кусочкі. Варылі ў вадзе, залівалі макам, саладзілі і такімі салодкімі елі. У нас і сёння іх ядуць, прытым больш чым усяго астатняга. Называлі іх звычайна слізікамі, таму што слізкія былі.

**— Мабыць быў і кампот з сушу.**

— У адных былі сушаныя грушы, у іншых яблыкі.

**— А капуста?**

— А ты думаеш я помню? У нас звычайна на Каляду капусты не варылі, не, не помню. Галоўны быў кісель. Кісель і мак залітыя вадой і пасаладжаныя. Калі жыла я ў Астраўку, мак дабаўлялі ў кісель, саладзілі і так елі. А ў нашай хаце ў Крушынянах зачэрпвалі лыжкай кісель, а макам запівалі.

**— Вам той кісель смакаваў?**

— Мне калісь, калі я была больш здаровая, смакаваў і на салодка, і са шкваркамі. На Каляду са шкваркамі яго не елі, але потым падгаравалі са шкваркамі. Вельмі ж ён тады смакаваў, а найлепш, калі б у кожнай лыжцы апынулася шкварка.

**— Як яго варылі?**

— Авёс проста малолі на муку, а пасля цёпленькай вады далівалі, не халоднай, і муку мяшалі з вадой і кідалі скарынку ад хлеба, каб скіс. Пакідалі сумесь нанач у цёплым месцы. Калі мука падыдзе, вырасце такі грыб, тады трэба гэта вымяшаць і працадзіць праз рэшата і папрабаваць ці скіс. Калісь, помню, мая мама, калі кісель скіс, злівала крыху вады, далівала чыстай і тады варыла. Да гэтага дабаўляюць соль і нічога больш і так варыцца той кісель.

**— А ці на Каляду ўспаміналі продкаў?**

— Не, не помню.

**— А пустую талерку ставілі?**

— А хто ж гэта помніць, хто ж пра гэта ведаў. Калісь талерак не было. Цягалі з адной міскі, як у гэтай казцы пра пяць лыжак заціркі: «Пайшла маці да пана на заробкі, зарабіла мукі і зварыла зацірку. У час сняданку паявіўся ў хаце сусед. Маці запрасіла яго да стала, пачаставала зацірkай. А маленькі хлопчык глядзіць на суседа і лічыць спажытыя ім лыжкі заціркі. Злічыў пяць і кажа: ох, каб гэта я з'еў гэтых пяць лыжак заціркі». Так калісь было.

Павячэраўшы, выцягвалі сена з-пад абруса. Варажылі, ці вялікі лён вырасце. Хто якое сцябло выцягне, такім будзе лён. У нас было прынята пакідаць ежу на стале.

**— Чаму?**

— Мабыць верылі, што нехта прыйдзе.

**— Жывы ці мёртвы?**

— Жывы альбо мёртвы, мабыць, мёртвым пакідалі, каб мелі што з'есці. Ну а пасля, раніцай, маці ўсё гэта збірала, а сена несла ў хлеў каровам, авечкам, а коням не.

**— Ці Вы калядавалі?**

— Помню, калісь сабралася нас, дзяўчат, і здаецца некалькі хлопцаў ды хадзілі

працяг ☞ 11





## http://radyjo.net

Сучасныя палітычныя абставіны ўсё далей разводзяць Польшчу і Беларусь. Гэта адбіваецца перш за ўсё на эканамічных сувязях, бо згодна сведчанняў кіраўніка польскай дыпмісіі ў Мінску Міхала Хабраса, тавараразварот паміж краінамі зніжаецца. Змяншэнне эканамічных стасункаў аб'ектыўна падштурхоўвае да зніжэння зацікаўленасці адной краіны да другой. Зразумела, просты люд з Беларусі не перастане ездзіць у Беласток на закупы, але істотна гэтыя вандроўкі не ўплываюць на патрэбу ў большых камунікацыйных каналах.

Разам з тым людзям па абодва бакі беларуска-польскай мяжы варта захаваць як мага большую прысутнасць хаця б для будучага развіцця адносін. У многім гэтаму спрыяюць медыі, якія даносяць інфармацыю аб падзеях у абедзвюх краінах. Адным з такіх медыяў з'яўляецца беларуская служба Польскага радыё, што вяшчае на краіны замежжа.

На сайт беларускай службы **http://radyjo.net** можна трапіць з кожнай старонкі агульнага сайта Польскага радыё, клікнуўшы на закладку Radio Poland. Там сярод іншых моўных службаў, пазначаных нацыянальнымі сцяжкамі, можна пабачыць і беларускую. Дарэчы, такі інтэрфейс галоўнай старонкі прысутнічае на ўсіх сайтах замежных рэдакцый Польскага радыё. Таму выгляд беларускай версіі не ёсць унікальным.

Будова галоўнай старонкі сайта выглядае даволі прывабна, а навігацыя па ім лёгкая. Пасярэдзіне знаходзіцца тызер, дзе змяняюцца галоўныя навіны, якія аздоблены фотаздымкамі. Потым ідзе дзяленне на дзве вялікія рубрыкі — „Беларусь" і „Польшча", дзе месяцца загалоўкі артыкулаў і навінных паведамленняў. Ніжэй знаходзяцца рубрыкі „Свет", дзе распавядаецца аб падзеях у свеце, якія на думку рэдакцыі, будуць цікавыя ў Беларусі ці Польшчы.

Нейкі працяг усіх вышэйзгаданых тэм бачыцца ў рубрыках „Тэмы", „Падзеі" і „Між іншым". У той жа час цікавай падаецца рубрыка „Відэа", дзе месяцца запісы размоў вядучых радыёстанцыі з запрошанымі ў студыю людзьмі. Таму, нягледзячы на аднолькавы інтэрфейс з сайтамі іншых замежных службаў, кожная з іх утрымлівае адпаведную той ці іншай краіне інфармацыю.

Калі ж цікаўны карыстальнік захоча даведацца больш падрабязна пра гісторыю беларускай службы Польскага радыё, то яму варта будзе зазірнуць на старонку „Пра нас", выйсце на якую месціцца ў самым версе цэлага выяўлення. Згодна пададзенай там інфармацыі, беларуская служба была заснаваная 13 студзеня 1992 года, але першая передача на беларускай мове выйшла ў эфір ужо 15 снежня 1991 года ў праграме польскай службы.

„У першы перыяд дзейнасці Беларуская служба інфармавала слухачоў у Беларусі перадусім пра найважнейшыя падзеі з розных галін жыцця польскае дзяржавы, пра польска-беларуськія ўзаемадачыненні ды пра сітуацыю нацыянальных меншасцей: беларускай у Польшчы і польскай у Беларусі, сыходзячы з пазіцый, што сапраўдная інфармацыя дазволіць узбагаціць веды беларусаў пра Польшчу і такім чынам прычыніцца да лепшага ўзаемаразумення. Разам са зменай палітычнае сітуацыі ў Беларусі, калі Беларусь пачала адыходзіць ад сваіх нацыянальных каштоўнасцей, імкнучыся адначасова да інтэграцыі з Расіяй і ўводзячы пры гэтым інфармацыйную блакаду, Беларуская служба ўзяла на сябе дадатковы абавязак — паведамляць пра падзеі ў Беларусі ды пра трактоўку беларускіх уладаў міжнароднай грамадскай думкаю", — распавядаецца на старонцы „Пра нас".

❖ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Дарыў Божае слова па-беларуску



## 100 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Чарняўскага

Беларускі каталіцкі святар, перакладчык Біблії і рэлігійных тэкстаў на беларускую мову Уладзіслаў Чарняўскі нарадзіўся 14 студзеня 1916 г. у засценку Амбружын (па-іншаму Амбражына, цяпер Ашмянскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Скончыў 4 класы школы ў Вішневе (цяпер Валожынскі раён), вучыўся ў гімназіі ў Крэве. У 1931-1933 гг. навучаўся ў настаўніцкай гімназіі ў Барунах. У 1934 г. пад уплывам свайго дзядзькі — ксяндза Францішка Чарняўскага — паступіў у гімназію пры кляштары марыянаў у Друі. У 1938 г. яе закончыў і пайшоў у навіцыят Кангрэгацыі айцоў марыянаў. У сувязі з высяленнем польскай паліцыяй шасці айцоў марыянаў з кляштара ў Друі правёў год навіцыяту ў мястэчку Скужэц Сядлецкага павета. Пасля паступіў у Семінарыю святога Восіпа ў Вільні, якую скончыў у 1945 г.

У кастрычніку 1944 г. Чарняўскі быў высвечаны на капланства літоўскім біскупам Мечыславам Райнісам. Першае набажэнства адслужыў у Крэве па-беларуску. Пасля паехаў у Вільню і нейкі час працаваў у касцёле св. Ігната. Пасля арышту кс. Адама Станкевіча разглядаўся як кандыдат на яго месца, але прызначэнне не адбылося. Пазней Чарняўскі служыў у парафіях на ўсходзе Літоўскай ССР, у тым ліку ў Варэне і Эйшышках. Пасля пераведзены ў Войстам на Смаргоншчыне, служыў у касцёле Святой Тройцы. А ў кастрычніку 1953 г. стаў пробашчам касцёла Панны Марыі ў Вішневе на Валожыншчыне. Там правёў амаль усе гады сваёй душпастырскай дзейнасці. Ажно да канца 1980-х гг. карыстаўся ў духовай працы выключна беларускай мовай. Праводзіў беларускамоўныя імшы нават да II Ватыканскага сабора, які афіцыйна дазволіў карыстацца ў касцёле нацыянальнымі мовамі. У 1966 г. атрымаў ліст ад папы Паўла VI з прапановай пасады адміністратара для ўсіх каталікоў Беларусі. Але на гэта не пагадзілася савецкае кіраўніцтва. Уладзіслаў Чарняўскі наведаў Ватыкан, дзе сустракаўся з Паўлам VI. Папа даручыў яму заняцца перакладам Біблії на беларускую мову. Чарняўскі пераклаў на беларускую мову сем кніг літургічных тэкстаў. Пераклады былі высланы на зацвярджэнне ў Ватыкан і праз некаторы час святар атрымаў запрашэнне зноў наведаць Апостальскую Сталіцу. Але на гэты раз савецкія спецслужбы не далі Чарняўскаму дазволу на выезд.

Прапановы ж Уладзіслава Чарняўскага больш шырокіх уводзін беларускай мовы ў касцёле не знаходзілі падтрымкі сярод іншых святароў. Фактычна ксёндз Уладзіслаў быў руплівым-адзіночкам. Затое стаў сапраўдным маральным аўтарытэтам сярод беларускай інтэлігенцыі. На беларускамоўныя службы ў Вішнева і проста па маральную падтрымку і парады прыязджалі шматлікія беларускія грамадска-палітычныя дзеячы. Многіх вядомых асоб ён хрысціў. Айцец Уладзіслаў вёў перапіску з беларускімі святарамі Францішкам Чарняўскім і Чаславам Сіповічам. Камітэтам Ушанавання Чарняўскі быў узнагароджаны ордэнам «Гонар Айчыны», а таксама запісаны ў Кнігу гонару «Руплівцы твае, Беларусь». Яго два разы запрашаў папа Ян Павал II ў Ватыкан, але Чарняўскі адмовіўся ад паездкі. Сваю адмову тлумачыў так: «Хай папа ў Беларусь прыедзе. Хай пабачыць, якія мы занядбаныя, якія мы самотныя ў сваім змаганні...».

Святар дачакаўся выдання свайго перакладу Новага запавету на беларускую мову. Памёр Уладзіслаў Чарняўскі 22 снежня 2001 г. у Менску. Пахаваны ў мясцовасці Вішнева (Валожынскі раён).

❖ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

10 ☞ працяг

пад вокны просячы дазволу спяваць. Калі ў хаце адкажуць станоўча, тады спяваем. Але некаторыя не дазвалялі. Не ўсе былі аднолькавыя. Хадзілі толькі да праваслаўных хат. Католікі асобна на сваё свята калядавалі.

**— А што спявалі?**

— Пераважна «Раджджаство Твае».

**— Не калядкі?**

— Не, тады калядак не было. Заспяваюць «Раджджаство Твае» і «Дева днесь», павіншуюць і ўсё. Калядкі, мабыць, спявалі ў царкве, але яны не былі папулярныя.

**— Калі ў Крушынянах паявіліся ёлкі?**

— Адкуль помню. Калісь хадзілі і запрашалі на гэтую ёлку. Пойдзем да некага, а там вершыкі скажам, паспяваем. Вялікая радасць была, калі па ляндрынцы, такой цукерцы, нам дадуць.

**— Пачакайце, на ёлку запрашалі?**

— Ну ведаеш, на вёсцы ці гэта сям'я ці дзеці сябруюць, тады бацькі запрашаюць. Сёння ў аднаго, заўтра ў другога і так хадзілі на гэтую ёлку.

**— Якія вершыкі тады гаварылі?**

— Вечер был; сверкали звёзды;
На дворе мороз трещал;
Шёл по улице малютка —
Посинел и весь дрожал.
— Боже! — говорил малютка, —
Я прозяб и есть хочу;
Кто ж согреет и накормит,
Боже добрый, сироту?
Шла дорогой той старушка —
Услыхала сироту;
Приютила и согрела
И поесть дала ему;
Положила спать в постельку.
— Как тепло! — промолвил он.
Запер глазки... улыбнулся...
И заснул... спокойный сон!

**— Дзе Вы яго навучыліся?**

— У хаце. Ну і за гэтыя вершыкі давалі дзецям па адной ляндрынцы. Гэта была вялікая радасць, калі дастанеш такую цукерку.

**— Дзе ставілі ёлку?**

— Звычайна ў куце, дзе было месца. У нас не было яго шмат, у пакоі поўна, у нашай сыпяльцы поўна, у кухні таксама не было дзе, таму ставілі яе ў цётчынай каморцы.

**— Як выглядала ёлка?**

— Звычайна. Ланцужкі рабілі, пяклі нейкае піражнае. Куплялі такія галоўкі анёлкам і помню, з кардону вырэзвалі тулава, рукі, ногі, аздаблялі паперкамі і так іх на ёлку вешалі. Надта прыгожыя былі, у шырокіх спадніцах, блузках, з крыламі. Былі яшчэ шышкі і кошычкі з каляровай паперы, у якія клалі ляндрынкі. Тады не было цукеркаў у паперках, а можа і былі, але хто ж іх купляў.

**Размаўляла Іаанна ЧАБАН**

## Экуменічны вечар калядак



Напрыканцы 2015 года ў святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) арганізавалі ўжо традыцыйна вечар калядак, у якім удзельнічалі бацькі і іх дзеці (сабралася 60 чалавек). У такіх вечарах заўсёды прымае ўдзел айцец Леанід Янкоўскі, настаяцель Стараляўкоўскага прыхода. У канцы мінулага года на гэтага роду мерапрыемства ўпершыню прыехаў ксёндз Грыгорый Кулакоўскі, пробашч каталіцкай парафіі ў Нараўцы.

У куце стаяла прыгожая ёлка. Яна свяцілася рознымі колерамі. На доўгім стале гарэлі свечкі і стаялі ўсялякія стравы. Найперш была супольная малітва. Пра шматгадовую традыцыю святкавання Каляд распавёў а. Леанід. Затым з нагоды калядных святаў і Новага года святары зычылі прысутным моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у асабістым жыцці. Яны падзяліліся з усімі аплаткай і просвіркай.

Пачалася вілейная посная вячэра і спяванне калядак. Вельмі дапамаглі ў іх спяванні царкоўны хор ды стараляўкоўскі фальклорны калектыў „Цаглінкі". На акардэоне іграў Мікалай Мяжэнны, мастацкі кіраўнік калектыву. Выконваліся песні на рускай, беларускай, украінскай і польскай мовах. У той вечар праспявалі многа прыгожых калядак — традыцыйных і зусім новых.

Мерапрыемства арганізавалі Крыстына Паскробка — кіраўнічка вясковай самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове ды Альжбета Кунцэвіч — старшыня Таварыства „Ятрышнік" („Storczyk") у Лешуках. Размову з удзельнікамі вечара калядак запісаў для Радыё Беласток беларускі журналіст Міхась Сцепанюк.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Разам ісці па жыцці

Нялёгка пражыць у пары паўвека. Усяляк у жыцці бывае. Часамі адно памірае раней ад другога. Часамі адно пакідае другога. Бывае, што шлюбныя пары жывуць у доўгай разлуцы (вось, напрыклад, калі муж або жонка выязджаюць працаваць за мяжу) ды разыходзяцца, бо ўжо сталі для сябе чужымі. Часамі было замнога зайздрасці, а гэта ўжо простая дарога да непаразуменняў.

Усё ж маем такія пары, у якіх адно без другога не можа жыць. Ідуць яны разам па ўсім сваім жыцці. Яны шчаслівыя і задаволеныя. Жывуць ва ўзаемнай пашане. Даражаць адно другім. Ім пашанцавала.

Нядаўна шэсць пар з Міхалоўскай гміны святкавала пяцідзесяцігоддзе шлюбнага жыцця. У ЗАГС атрымалі яны ад прэзідэнта РП памятныя медалі і дыпломы за шматгадовае шлюбнае жыццё. Узнагароджаны былі Аркадзь і Яўгенія Госцікі, Уладзімір і Зофія Рыбінскія, Сяргей і Ніна Грыкі, Мікалай і Люба Яроцкія, Уладзімір і Марыя Верамеюкі ды Мечыслаў і Анна Рыгаровічы. Віншуем!

**(яц)**

## Падманлівыя абяцанні

Бясплатныя лякарствы для сеніёраў пасля 75 году жыцця гэта адна з пяці прыярытэтных задач у выбарчай кампаніі Бэаты Шыдла на першых сто дзён урада. Палова тэрміну сцякла, а дагэтуль пра абяцанні няма ніякіх канкрэтных рашэнняў. Праўда, у пачатках снежня мінулага года віцэ-міністр здароўя Кшыштаф Ланда напомніў, што на спіску бясплатных лекаў знойдуцца медыкаменты, якія дагэтуль былі кампенсаваны ў 30 і 50 працэнтах, не ўлічваючы найбольш „ходкіх", што можа прывесці да злоўжыванняў. Рэцэпт на бясплатныя лекі — першапачаткова — будуць выпісваць сямейныя лекары. Пазней, па ацэнцы міністра здароўя Канстанты Радзівіла, бясплатныя лякарствы зможа выпісваць кожны лекар на аснове прад'яўленага пацыентам дакумента і ідэнтыфікацыйнага нумара PESEL. Невядома калі праект уступіць у сілу. Як канстатаваў міністр, грамадскія кансультацыі завяршаюцца 6 студзеня. Які будзе канчатковы вынік абяцанкі Бэаты Шыдла, пакажа час. У мяне песімістычныя думкі і на сучасныя ўрадавыя абяцанкі гляджу праз цёмныя акуляры, бо ўсё гэта ілюзія. Звычайны абман. Падобнай думкі многія інтэрнаўты. Напрыклад 23 снежня ананімны доктар спецыялістычнага кааператыва медыкаў напісаў: „Чакай з мора пагоды, а мо хутчэй памрэш і не будзеш абкрадаць бюджэту".

Па ацэнцы СМІ шумна абвешчаная дапамога для сеніёраў у закупцы лекаў будзе сімвалічнай, бо ў сёлетнім дзяржаўным бюджэце на гэтую мэту будзе прызначана адно 125 мільёнаў злотых, значыцца на 370 мільёнаў злотых менш чым патрабавала ведамства аховы здароўя.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. расліна сямейства ароідных (*Acorus calamus*) = 19 _ 2 _ 20 _;
2. вулей у дупле = 7 _ 6 _ 8 _ 3 _ 4 _;
3. гаручая вадкасць... між Егіптам і Ізраілем = 16 _ 17 _ 12 _ 13 _;
4. праём у сцяне для праходу = 5 _ 29 _ 18 _ 30 _ 28 _ 21 _;
5. вадкасць, якую выдзяляюць ныркі = 14 _ 15 _ 26 _ 27 _;
6. цвіце ў купальскую ноч = 24 _ 25 _ 1 _ 9 _ 10 _ 11 _ 22 _ 23 _.




**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 52 нумара:** Прынцып, фраза, востраў, урач, цырк, саган, ёд, сэрца, Рыга, дзік, каранцін.
Рашэнне: **Вучыцца заўсёды прыгадзіцца.** Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока.

## 17.01 — 23.01

**(22.03. — 20.04.)** Зоркі задбаюць аб твае фінансы і здароўе. 17-18.01. навінкі ў тваіх пачуццях. Выходзь з хаты, гуляй — папулярнасць асабліва ў Бараноў з другой і трэцяй дэкады. «Закальцаваныя» няхай не пераборшчваюць! Моцнае здароўе і энергія. Магчымыя непаразуменні сярод радні — не тупай нагой! Грошы будуць — мноства нагод ад 16.01. аж да 28.01.!

**(21.04. — 21.05.)** Задумы на новае ў кар'еры, умеласцях, багацці. І грошай павінна хапіць, толькі не шалей у крамах; вазьмі пад лупу свае выдаткі 16-20.01. І не вер у раптоўныя залатыя горы, не дай сябе падмануць. Хаця на ўсякі выпадак вырошчвай базілік, насі яго лісток у кашальку, нюхай яго арамат Калі думаеш пра новую працу, стукай — адчыняць.

**(22.05. — 22.06.)** 16.01. можа выявіцца тое, што ты плёў на іншых. З 17.01. (да 31.01.) пераможаш канкурэнтаў. Але 18-22.01. не дай сябе намовіць на рызыканцкія ідэі. Блізняты без пары будуць мець магчымасць пазнаёміцца з кімсьці мілым. Разгляньтеся за лепшым заробкам — нагоды асабліва ад 21.01. Калі хочаш заінвеставаць, пацікаўся праектам знаёмага. Знойдзеш спосаб на гарэзлівых дзетак. Можаш добра пахудзець, меўшы заўзятара пад бокам.

**(23.06.—23.07.)** 17.01. непаразуменні з партнёрам папсуюць настрой. Пасля здорава, весела, аптымістычна. Пераможаш канкурэнцыю, асабліва да чыйгосьці сэрца. У фінансах рост — спішы свае задумы на бізнес або лепшы заробак — многа з іх у час поўні Месяца (24.01.) будзе стрэлам у дзясятку! Маеш шанц на прэмію, вяртанне доўгу, неспадзяваныя грошы ад радні. Але з 17.01. канфлікты, асабліва ў сям'і, могуць нарастаць да канца месяца. Не спрачайся за драбязу! 20.01. можаш кепска ацаніць чыесьці намеры і даверыць злыдню.

**(24.07. — 23.08.)** 16-17.01 наладзіш добрыя дамовы, знойдзеш прапановы працы. Старайся не рабіць нічога неабдумана, гвалтоўна. Можаш добра заінвеставаць грошы. Зоркі адымуць табе гады, маршчыны і кілаграмы! 17-31.01. пазбавішся ўсіх кепскіх звычак! Вольны Леў з 21.01. захоча мець сваю пастаянную палавінку.

**(24.08. — 23.09.)** Ад 17 аж да 31.01. будзе трымацца цябе шчасце, а здзяйсненне некаторых мар акажацца зусім лёгкім. Але 18-22.01. можаш страціць чыйсьці давер. Для пар, якія жывуць без шлюбу, добры час звязацца афіцыйна — шлюб у гэтым месяцы гарантуе вам шчаслівае і трывалае сужыццё. Здароўе ў норме, без лішняй ахвоты зашалець. Насі грошы ў чырвоным кашальку.

**(24.09. — 23.10.)** Аж да 24.01. мноства кампанейскіх сустрэч і забавы, хаця вельмі часта будзеш нервовы, прымаючы ўсё да сваёй асобы. І разважна прыглядвайся сярод кампаніі — хтосьці схоча табою маніпуляваць. А шыкуйся на прылíў грошай і паправу сваёй прасторы ды жылля. Хукай на сваё здароўе, каб не прастудзіцца, не стрэсуйся, высыпайся, еж здаровае.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш мець многа энергіі і волі падзейнічаць. Больш увагі аддай сваёй пары 16-28.01. Займіся справамі сваіх блізкіх, асабліва найменшых. На працы поспехі. 17-31.01. зоркі памогуць табе паказаць твае наймацнейшыя бакі. З канфліктных сітуацый выйдзеш пераможцам, пазбудзешся тых асоб, якія цябе вяжуць. Кантралюй свае выдаткі, асабліва калі ты з другой дэкады знака.

**(23.11. — 22.12.)** 16-22.01. магчымыя спрэчкі з суседзямі. Але ж спакой духу, сіла для афармлення і найцяжэйшых спраў. Пакажашся з найлепшага боку, на працы выйдзеш у перадавікі. Можаш падаць заяву на дафінансаванне. Варта старацца — тое, да чаго даб'ешся цяпер, удасца табе ўтрымаць.

**(23.12. — 20.01.)** 18-22.01. выпрабуецца твая цярплівасць; захавай спакой. Добры настрой, форма, досціп і інтэлектуальныя магчымасці. Можаш зрабіць важныя змены, карысныя і для ўсіх вакол цябе. На працы твае задумы спадабаюцца і дацэняцца, бо прынясуць нейкую палёгку.

**(21.01. — 19.02.)** Увесь месяц добры. Дасягнеш штосьці доўгачаканае, удала ў кантактах з людзьмі. Хаця 18-22.01. твае планы могуць ускладніцца — не ўсё можна дастаць адразу. На працы варта спрабаваць чагосьці новага. Паправа формы. Для папраўы ў фінансах запальвай свечку колеру бардо.

**(20.02. — 21.03.)** Бярыся за амбітнае. Можаш пазмагацца за лепшую працу, чыёсьці сэрца. Заквітнее кампанейскае жыццё. Шукаючы працу, можаш застукаць нават да канкурэнцыі 16-17.01., а калі падабаецца табе на старой, узмоцніць там сваю пазіцыю. Калі трымаеш свой бізнес, задбай аб рэкламу. З 16 аж да 28.01. мноства нагод для знаёмстваў кароткіх і на ўсё жыццё.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (30)

Ці многа ў вас Якубовічаў?

— Калі ўлічыць яшчэ тых з сяла Лугавое (па-ўкраінску *Луговэ*), адкуль пайшоў наш радавод, дык найменш дзвесце чалавек будзе, — кажа Сяргей Якубовіч з сяла Міляч.

Сяргей — малады настаўнік гісторыі, ад пяці гадоў асвятляе тэму радаслоўнай жыхароў сваёй мясцовасці. Вынікі пацвердзілі здагадкі і сямейныя пераказы. За тры апошнія стагоддзі колькасць мясцовых прозвішчаў амаль не змянілася. Што гэта значыць? Што іх грамадскасць заўсёды была закрытай і ўсе тут прыходзяцца сабе сваякамі...

— Дык чаму вашы хлопцы не ехалі за жонкамі ў Перабароды? Гэта ж адносна блізка?

— Яны пэўна хацелі б прывезці адтуль жонак, — кажа Сяргей, — але на гэта не дазвалялі балота і паводкі. Больш чым палову года нас раздзялялі непраходныя разлівы і таму ніхто спецыяльна не кіраваўся ў той бок. Так што сама прырода вырашала пра наш лёс.

* * *

Так, так. Пасля першай паразы я зноў вярнулася ў Міляч адшукаць Сяргея Якубовіча. Толькі цяпер я зразумела, наколькі складаны быў мой выклік. Знайсці патрэбнага Якубовіча сярод двух соцень іншых аднафамільцаў гэта так, як палічыць усе ліпы ў пушчы.

Мая рашучасць не пагасла дзякуючы Любе Красько з таго ж Лугавога. Раней мы наткнуліся на сябе ў адным цягніку і ў адным купэ на трасе Ковель — Сарны.

Люба напамінала мне вясковых сябровак з нашай падляшска-племянной айчыны і з цэлай душы хацела дапамагчы. Цягам дзвюх гадзін яна ўспамінала вядомых сабе Якубовічаў і яе пераліку не было канца. На канец яна сама заблыталася:

— *А чый жэ вуон будэ?* — дапытвала мяне. — *Як зовут его по батьку?*

Я тады не ведала хто па прафесіі мой Сяргей Якубовіч, колькі яму гадоў, які ў яго адрас. Яго прозвішча і назву сяла перадаў мне па фейсбуку знаёмы гісторык з Беларусі. Здавалася мне, што ў сяле ўсе ўсіх ведаюць!

Люба вырашыла канчаткова: трэба прыехаць у Лугавое. Там, на месцы, лягчэй будзе разабрацца. Да гэтага часу яна паабяцала знайсці такога Сяргея Якубовіча, які піша ў газеты. Гэта была інтуітыўная падказка з майго боку...

Аднак калі ў мяне атрымаўся шанц яшчэ раз з'ездзіць у Міляч і Лугавое, Люба даўно ўжо з'ехала ў Ковель. Я адчувала сябе вінаватай. Не хацелася падвесці гэтую прылюдную жанчыну і сябе самую. Як жа праігнараваць усе тыя пошукі і роспыты, якія поўным ходам вяліся ў сям'і маёй знаёмай. Колькі з-за мяне патрацілі добрыя людзі грошай на званкі са сваіх мабілак, адчайна шукаючы майго героя? Ды што, калі сам Сяргей Якубовіч, паінфармаваны пра мой візіт, спадзяецца на сустрэчу? З палескай, дубровіцкай перспектывы Польшча явілася неверагодна далёкім і экзатычным краем. Быццам не па-суседску была мая краіна, а на далёкім Каўказе або ў Паміры...

Словам, справа выглядала сур'ёзна і нельга было адступіцца.

З другога боку, гэта быў каларытны прысмак палескай лагістыкі і спроба дастацца ў нетры закрытага перад чужынцамі свету.

* * *

Найгорш, калі абмяркоўваеш нязведаны край на адлегласць з выпадкова сустрэтай жанчынай! На месцы ўсё выглядала проста. Я прыехала на маршрутцы з Дубровіцы ў Міляч і адразу пайшла ў школу. Там усё патлумачылі.

— Ці ў вас настаўнічае пан Сяргей Якубовіч? — спытала я ў дырэктарскім кабінеце.

— Не, ён наш выпускнік, — пачула я ў адказ.

Некалькі секунд пазней, дзякуючы прыватнай мабілцы спадарыні дырэктар, я дамовілася на сустрэчу з маім героем. Сяргей Якубовіч настаўнічаў у вясковай школе непадалёк Дубровіцы. Даезд у адзін бок на маршрутцы займаў яму больш за гадзіну часу. Хоць да сустрэчы заставаліся тры гадзіны, я акрыяла і павесялела. Каб скараціць час чакання, я пайшла прагуляцца па вёсцы. Міляч, з разбудаванай сеткай вуліц, у нічым не напамінала герметычнай мясціны. Хутчэй нагадвала мястэчка — з помнікам байца ў цэнтры, мураванай царквой, домам малітвы пяцідзясятнікаў, дзейсным калгасам, барамі, магазінамі і трохпавярховай школай-адзінаццацігодкай з 285 вучнямі. Я абышла цэнтральную і бакавыя вуліцы, завітала на могільнік з драўлянай каплічкай, каб там яшчэ раз наткнуцца на Якубовічаў, якія і тут займалі значную частку прасторы...

На вуліцы мінула мяне можа трыццаць дзяцей, якія пешшу або на веласіпедах вярталіся са школы дамоў. Усе яны ўжо здалёк падавалі ў мой бок «добры дзень» і гэта здавалася незвычайнай праявай ветлівасці і добрага выхавання. Многія з іх былі апрануты ў вышыванкі.



На краях сяла, на плоскіх лугах пасвіліся статкі чорна-белых кароў. Прыдарожны стэнд Дзяржаўнага агенцтва водных рэсурсаў Украіны інфармаваў пра меліярацыйную сістэму Міляч — Казакі, заведзенай у 1792 годзе. У выніку былі асушаны 9280 гектараў зямель, з чаго 1793 гектары складала плошча з закрытым дрэнажом, а 3183 гектары былі аддадзены пад сельскагаспадарчыя палі, на якіх мясцовыя калгаснікі спрабавалі сеяць лён.

* * *

— Тут дзе сёння каналы, раней плылі рэчкі Доўгая Даліна і Брахлюўка, — кажа Сяргей Якубовіч. — Яны заўсёды разліваліся ўвесну і восенню ды перашкаджалі нашым кавалерам ездзіць па жонак у іншыя сёлы. Дык тут не было бяды, мілячанцы здавён-даўна жаніліся з лугавічанкамі ды наадварот. Каб усвядоміць аўтаномію дзвюх сваяцкіх вёсак, хопіць пералічыць колькасць жыхароў. Сёння ў адной Мілячы пражывае тысяча трыста чалавек... Калі перакласці гэтыя лічбы на мясцовыя прозвішчы, дык як на далоні відаць залежнасць паміж галоўнымі родамі. Асноўныя прозвішчы гэта Савіч, Максімовіч, Герасімовіч, Якубовіч, Ляховіч ды Барсук.

— А самае старое мілячанскае прозвішча, якое я знайшоў у дакументах, запісана «Кузка», — дадае гісторык, — і яно існуе па наш дзень, толькі ў іншым варыянце. Пасля рэформы гэтае прозвішча пачалі пісаць Кусько, Касько, Красько...

— А ведаеце што па-польску значыць слова «кузка»?

— Цікава?

— Гэта казуля.

Калі гаварыць пра мясцовыя імёны, тут таксама царыць жалезны састаў:

— Усе нашы мужыкі гэта Іван, Сцяпан, Сяргей, Васіль, Мікола, — пералічвае даследчык. — Людзі чамусьці не любілі экзатычных імёнаў.

— А якое самае экзатычнае ў вас будзе прозвішча? — пытаю.

— У нас трое людзей завецца Смульскі. Здаецца, гэта найбольш экзатычнае наша прозвішча.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960